

Інтэррэгіянальна ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Кірмаш зубра ➔8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 30 (3298) Год LXIV Беласток, 28 ліпеня 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Песняй Міхала Анемпадыстава «Простыя словы» завяршыўся трыццаты і апошні Фестываль музыкі маладой Беларусі «Басовішча-2019». З 1990 года ў Гарадку ва ўрочышчы Барык гучала музыка з абодвух бакоў мяжы. Праз усе гады на сцэну выйшлі дзясяткі беларускіх калектываў — ад бардаў да самай сучаснай беларускай музыкі. Фестывалем «Басовішча» быў зроблены вялікі ўклад у беларускую культуру, а таксама ў перамену нас, беларусаў Падляшша.**

## «Басовішча» дабілася сваёй мэты

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**



### НЕДАВЕР І СМУТАК

— «БАСы» для мяне гэта такі маленькі беларускі рай. Кожны год хацелася туды папасці і адпачыць пры беларускай музыцы, — сказаў Ігар з Гародні, верны ўдзельнік фестывалю.

Штогод «Басовішча» наведвала некалькі тысяч прыхільнікаў з Польшчы, Беларусі ды іншых краін свету. Для многіх «БАСы» гэта штогадовая традыцыя і месца сустрэчы сяброў. Гарадок у сярэдзіне ліпеня мяняўся ў анархічнае мястэчка, перапоўненае маладымі людзьмі, музыкай і лозунгам «Жыве Беларусь!». Трыццатае, юбілейнае «Басовішча-2019», — па словах арганізатараў, — стане апошнім. Прычына завяршэння дзейнасці беларускага фестывалю простая: не хапае сродкаў. Сёлета Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі на арганізацыю «Басовішча» выдзеліла 90 тысяч злотых. Некалькі гадоў таму сродкі былі большыя на 25 тысяч злотых.

— Ведаем, што пры такой падтрымцы з боку дзяржавы мы не зможам далей арганізаваць фестываль на высокім узроўні, — сказала ў час дыскусіі на «БАСмежжы» Лідка Пякарская. — Мы зрабілі ўсё, каб з гонарам закончыць юбілейны фестываль. Вядома, будзе сумна. Але, я думаю, трэба перш за ўсё цешыцца тым, што сёлетні фестываль таксама якасны і цікавы. Завяршаем «БАСы» на высокім узроўні.

Суботняй дыскусіі «Дыхай чыстым паветрам — гісторыя „БАСовішча"» ў рамках «БАСмежжа» прыслухоўваліся дзясяткі людзей. Вядучы панэль Мікола Ваўранюк размаўляў з асобамі, якія мелі значны ўплыў на фармаванне фестывалю: Ілонай Карпюк, Лявонам Тарасэвічам, Лідкай Пякарскай, Лявонам Вольскім і Віталём Зыблюком.

На думку Лявона Тарасэвіча, не грошы, толькі энергія, якой няма ў маладога пакалення, з'яўляецца галоўным фактарам, які прымушае спыніць фестываль.

— Рок-музыкай займаюцца людзі, якія пратэстуюць, якія хочуць будаваць будучыню. Калі людзі хочуць прыехаць і толькі паслухаць, пагойдацца, то няхай ездзяць на фестывалі, якія арганізуе Беларуская грамадска-культурнае таварыства, — сказаў на «БАСмежжы» Лявон Тарасэвіч. — Раней і гурты, такія як «Уліс», мелі энергію і арганізатары таксама. Я лічу, што калі не БАС, то іншыя зоймуцца арганізацыяй фестывалю.



Мікола Ваўранюк, Лідка Пякарская і Віталь Зыблюк



Лявон Тарасэвіч звярнуў таксама ўвагу на гэта, што на прыкладзе музыкі «БАСаў» можна сказаць, што хоць Беларусь як дзяржава зараз з'яўляецца палітычным музеем, у музычным плане яна — культурная частка Еўропы.

### ЮБІЛЕЙНЫЯ І АПОШНІЯ

XXX «БАСы» запамятаюцца. Выступоўцы падрыхтавалі адмысловыя праграмы, было таксама больш гуртоў і амаль усе — беларускія. Пятніца ўжо традыцыйна пачалася з выступаў канкурсантаў. Сёлета яны прадставілі вельмі розныя музычныя стылі — ад аўтарскай песні, да панка, рока ды электроннай музыкі. «Люты сакавік» і «Harmonix College» набралі па 40 балаў і сталі пераможцамі XXX «Басовішча».

У пятніцу асноўную канцэртную праграму адкрыла легенда беларускай рок-музыкі «Крама». Выступ гэтага гурту для яго старэйшых удзельнікаў напэўна быў сентыментальным вяртаннем да першых выпускаў фестывалю. Са сцэны можна было яшчэ пачуць беластоцкі гурт «Ilo&friends», «Bez.Not», польскі гурт «Żywiołak», які стварае народную музыку. Як заўсёды на Падляшшы чаканым быў выступ гурту «Re1ikt», які традыцыйны беларускі песенны фальклор робіць для слухачоў актуальным. На юбілейных «БАСах» выступіў таксама менскі гурт «Znich».

На другі дзень фестывалю яшчэ раз выступілі лаўрэаты конкурсная часткі, пасля іх прэзентаваўся гурт «Крэха» — ансамбль з Падляшша, які ўзнік у 2016 годзе. У яго выкананні можна было пачуць беларускія песні, а гэтыя стварае падляшскі пісьменнік Кшыштаф Шубзда, на беларускую мову перакладае іх настаўнік з Гайнаўкі Янка Карчэўскі. «Крэха» зайграла дынамічны сэт, пры якім людзі разняволіліся перад сцэнай. На юбілейных «БАСах» выступіў беларускі гурт «SnopSnoŭ» і папулярны беларускі фольк-рок-гурт «NAVIBAND».

— Нам вельмі прыемна ўдзельнічаць у юбілейным фестывалі, — сказала вакалістка «NAVIBAND» Ксенія Жук. — Тут вельмі цёплая і адданая публіка.

На сцэне з'явіўся таксама асноўны хэдлайнер «Басовішча-2019» — гурт «Volski» з Лявонам Вольскім на чале.

чытайце ☞ 12





# Адлік ад Каліноўскага

У Свіслачы Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь разам з адмысловымі спецыялістамі з Беларусі і Літвы правялі археалагічныя працы па эксгумацыі парэштак Віктара Каліноўскага, роднага брата легендарнага кіраўніка паўстання 1863-1864-х гадоў Кастуся Каліноўскага!!!

Навошта?!!

Афіцыйная версія гэтых работ заключаецца ў тым, што літоўскі бок хоча параўнаць мяркуемыя парэшткі Кастуся Каліноўскага, знойдзеныя ў Вільні, з таксама мяркуемымі парэшткамі яго брата. Неафіцыйная версія таксама прысутнічае ў народзе, вітае ў вуснай і пісьмовай форме, і яна значна менш аптымістычная. Паводле яе, маўляў, хочуць нам абвесціць, што і там, і там, ці хоць як мінімум тут, ДНК Каліноўскага не выяўлена...

У гэтай другой версіі не так шмат смешнага, як здаецца на першы погляд. Сённяшнія беларускія ўлады не адзін год пераследуюць тых актывістаў, якія прыязджаюць у Свіслач ушанаваць памяць паўстанцаў. Каму-каму, а ім то, уладам, яўна непатрэбна, каб ДНК Каліноўскага знайшлося ў Беларускай зямлі. Ім было б лепш, каб і імя яго не гучала ў беларускім паветры.

Чыё заўгодна хай гучыць! Пра расейскіх Сцяпана Разіна ці Емяльяна Пугачова нават у школе можна распавядаць, а вось Каліноўскі нешта іншае... Да яго асаблівыя адносіны ў сённяшніх кіраўнікоў Беларусі...

І справа не ў асабістых сімпатыях ці антыпатыях нашых чыноўнікаў да тых, ці іншых гістарычных постацей. Справа ў адносінах гэтых гістарычных постацей да ўлады ўвогуле...

Бравы казак Сцяпан Разін заяўляў, што не збіраецца скідваць з трона расійскага цара Аляксея Міхайлавіча. Ён па старой расійскай звычцы ва ўсім вінаваціў баяр, ваявод, іншую адміністрацыю, якую цар расійскі і прызначаў. Супраць жа царскай тыраніі як увогуле супраць дыктатуры, прэтэнзій нібыта і не выстаўляў. Прынамсі на словах.

Другі адважны казак Емяльян Пугачоў пайшоў яшчэ далей у гэтым пытанні. Ён сам абвясціў сябе спадкаемцам трону расійскага — імператарам Пятром III, і яшчэ па адной расійскай звычцы хацеў кепскага цара замяніць на добрага. У дадзеным выпадку на сябе самога. Зноў жа, прынамсі на словах. І зноў жа да існавання дыктатуры як да адзіна магчымай сістэмы кіравання аніякіх прэтэнзій не меў.

Ну і якія ў такім разе да гэтых гераічных расійскіх хлопцаў могуць быць прэтэнзіі ў сённяшняй беларускай улады?! Героі і ўсё тут. Можна і ў школе іх ставіць у прыклад.

А вось беларускі паўстанец Кастусь Каліноўскі справа іншая!!!

— Толькі тады, народзе, зажывеш шчасліва, калі над табой маскаля ўжо не будзе, — заявіў ён у вечнасць.

(Маскалямі тады называлі чыноўнікаў, пастаўленых ад імя Расійскай Імперыі кіраваць народам. Не трэба слова маскаль блытаць са словам рускі. Гэта не адно і тое. Але зараз не пра гэта развагі, а пра тое, што не хацеў Кастусь расійскай дыктатуры над беларускім народам).

— Не народ для ўлады, а ўлада для народа, — сказаў ён яшчэ, і не адзін раз паўтарыў.

І гэтымі словамі засведчыў, што аніякай дыктатуры не хоча, не толькі чужынскай, але і сваёй родненькай. Ды і сам у дыктатары не імкнуўся. Вось і ўся розніца!

Ну то за што яго будзе шанаваць сённяшняя ўлада?!

А пасля яго гераічнай смерці, якая завяршыла не менш гераічнае, хоць і кароткае жыццё, знайшліся спадкаемцы яго ідэй і яго змагання. Па сённяшні дзень захаваліся такія. Таксама дыктатуры не любяць. Вось і хапаюць іх як у Свіслач прыязджаюць на магілу Віктара Каліноўскага...

Ну то ці зацікаўленыя ўлады ў тым, каб слава гэтага месца ў свет пайшла?!

Так што падазрэнні ў праўдзівасці экспертызы не на пустым месцы вырастаюць. Тым больш, што працы праходзілі без належнай галоснасці. Ну а пра тое, хто ўклаў грошы ў той мемарыял і ці дазваляе ён яго бурыць ні ў каго з прадстаўнікоў улады і ў галаву не прыйшло пацікавіцца. Магчыма яны такія грошы за грошы не лічаць. Але ж тыя, хто скідваўся апошнімі сродкамі, маюць на гэты конт іншае меркаванне.

Зрэшты, што скажуць па завяршэнні работ адпаведныя службы і адказныя асобы, не так ужо і важна. Важна што сказаў сам Кастусь Каліноўскі. А ён ужо ўсё сказаў. Ад яго ідзе той адлік, які будучыню Беларусі дапускае толькі як незалежную, свабодную, і абавязкова дэмакратычную. Гэты адлік ідзе, і абавязкова прыйдзе да лагічнага завяршэння.

Віктар САЗОНАЎ

# Ода да радасці

Пасля Беластоцкага марша роўнасці мы ўпэўнены, што роўнасць не роўная роўнасці. Ёсць роўнасці раўнейшыя і нават больш раўнейшыя, альбо неабавязкова роўныя альбо роўна няроўныя. Таму няроўнае сутыкненне маладых, агрэсіўных лысуноў-каркаў з удзельнікамі Марша роўнасці, які адбыўся некалькі дзён таму ў Беластоку. Апошніх жа ж было больш! Вось чаму першыя, для балансу сіл, забяспечыліся цвёрдымі палкамі, камянямі і ... бруднай лаянкай і асабістай слінай на маршыруючых. Ісус сказаў, што калі хто бездакорны, няхай плюне першы, цалкам паказвае, хто сапраўды вінаваты. Не аплёўваючы. А выключна аплёўваныя. Ва ўсякім выпадку, усе сумневы ў гэтым дачыненні справядліва ўрэгуляваў інтэрнэт-сервіз парафіі святой Ядвігі Каралевы ў Беластоку. Пастырскае абвяшчэнне з'явілася на наступны дзень пасля марша: «Мы, як слугуючыя святары [...], аддаём даніну падзякі і дзякуем усім, хто нядаўна далучыўся ЛЮБЫМ ЧЫНАМ (падкрэсленае мною — М. Г.) да абароны хрысціянскіх і чалавечых каштоўнасцей, абараняючы наш горад, асабліва дзяцей і моладзь, ад планавай дэмаралізацыі і разбэшчвання. Няхай Бог узнагародзіць вас і дабраславіць вашы УСЕ ДОБРЫЯ ПАЧЫНАННІ».

З тэзісам пра тое, што вінаватыя заўсёды апляваныя, дазвольце мне не пагадзіцца. Прытым катэгарычна. У гэты момант я маю на ўвазе дзве фразы, якія ўтрымліваюцца ў вылучаным выказванні святароў. Выраз «любым чынам» яны маглі б замяніць на значна больш простую меладычную фразу — «раз серпам, раз молотэм, роспэндзіць голотэ», і ўсё ж яны не выкарысталі яе! Што такое «далейшыя добрыя пачыманні», зразумелі толькі яны. Ды і пан пракурор — калі ён зразумеў, чаго ж не разумеюць святары, што асвенцімскія каміны і нацысцкія апантанасці, якія прывялі да злачынстваў супраць чалавецтва — не псеўдагістарычныя дакучлівасці, а відавочныя факты. Іх грубая прырода — канцэрагенная жыццяздольнасць, якая праяўляецца ў цыклічных метастазах, атакуючых сацыяльныя арганізмы, якія аздаравелі пасля вопыту Другой сусветнай вайны. Нацызм, расізм, ксенафобія, ідэалагічная напышлівасць — ці гэтага ніколі не было? А пасля часовай рэмісіі зноў заатакавала грамадствы. І ужо польскае асабліва. Калі толькі праўда тое, што сапраўднае, дык сапраўдны ліст «слугуючых святароў», накіраваны на ідэалагічных праўнукаў Гебельса і Гітлера — падробка. Гэта шчырае прызнанне святароў. Спадар пракурор, вядома, будзе ўлічваць гэта, абвінаваціўшы іх у распаўсюджванні нянавісці і падпальванне да незаконных актаў. Калі хтосьці яшчэ сумняваецца ў віне маладых лысуноў... Прабачце, абаронцаў «хрысціянскіх і чалавечых каштоўнасцей», якіх яны ахоўваюць пляўкамі і тоўстай палкай, хай уважліва прачытае «заклік сораму», накіраваны непасрэдна да прэзідэнта Беластока, што размешчаны на твітары маршалкам Падляшскага ваяводства, кіраўніка рэгіянальных структур ПіС Артурам Касіцкім: «Пан Прэзідэнт Трускаляскі. [...] Вы зрабілі ўсё, каб Марш ЛГБТ прайшоў праз цэнтр горада. [...] Вы ганарыцеся? Ці крыху вам сорамна па-чалавечы? Не хапіла вам адвагі, ці ўяўлення?»

Пану маршалку Касіцкаму, відавочна, сорамна. Па-чалавечы. Хапіла сораму святарам з парафіі св. Ядвігі Каралевы. І мне глыбока сорамна за іх ... бессаромны сорам. На жаль, менавіта з гэтай бессаромнасці выклёўваюцца кепскія ўчынкі, бойкі і хуліганскія дзеянні. Што тычыцца прэзідэнта Трускаляскага, то ён можа ганарыцца тым, што прыняў рашэнне аб правядзенні Марша роўнасці. Бо Канстытуцыя — гэта найвышэйшы закон у Польшчы, і яна абвяшчае, што Польшча з'яўляецца супольным дабром усіх грамадзян. Такім дабром ёсць законнае права да праяўлення сваіх перакананняў, да іх абароны ад ксенафобіі і псеўдарэлігійнага фанатызму. Зраўнанне Маршу роўнасці з ідэалогіяй ЛГБТ — скандальны гвалт. Альбо пік невуцтва, супастаўны са сцвярджэннем, што песенька «Естэсь шалёна» пераўзыходзіць гарманічную прыгажосць «Оды да радасці» Бетховена. Маршалак здзейсніў такое злоўжыванне. Святары прыхода св. Ядвігі Каралевы таксама. «Ода да радасці» — шэдэўр, «Естэсь шалёна» — мастацкі кіч і музычная распуста.

Марш дзеля «сям'і» часткова супаў з легальным шэсцем сімпатыкаў грамадзянскай роўнасці, гарантаванай канстытуцыяй, літаральна і вобразна аблажанага «абаронцамі каштоўнасцей», забяспечаных у пляўкі і дубінкі. Дасталася ўсім.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# «БАСОВІШЧА» — вечна жывое

Нават не верыцца, што трыццаць выпускаў фестывалю «Басовішча» за намі. Такая думка залезла ў маю галаву і не адпускае. Першы, фестывальны дзень глядзеў я дзякуючы відэатрансляцыі на сайце Радыё Рацыя, а паралельна вялася трансмісія ў жывым эфіры радыё. Цяпер магчымае паглядзець яшчэ раз канцэрты ў любы момант у інтэрнэце. Такой магчымасці не мелі арганізатары многіх выпускаў фестывалю. Да таго запісы канцэртаў для тэлебачання даюць неблагі прамацыйны аргумент кожнаму, хто падымецца арганізаваць «Басовішча» ў будучыні, а не спыніцца ён на гэтым апошнім. Калі прыгадваю сабе першыя запісы на магнітафонных касетах і відэакасетах, тады тэхнічная рэвалюцыя маецца як на далоні. Давайце памятаць і пра першую сцэну, і гукаапаратуру, якая з кожным годам гучала грамчэй і якасней. Сучасная сцэна па памерах і асвятленні эстэтычна ўпісваецца ў краявід лясной паляны. Быўшы на фестывалі, не мог я і не прысесці на адвечных барыкоўскіх лавачках. Ой, прыдаюцца яны ўсім, чыя нага ступіла на фестывальную паласу. Гледачы і выканаўцы, што не хацелі занадта разгульвацца перад сцэнай, з насалодай назіралі адсюль за музычным відовішчам.

Другі дзень правёў я ўжо непасрэдна ва ўрочышчы Барык, амаль увесь час шпацыруючы па ўсіх фестывальных сцяжынках «Басмежжа». Усё было натуральным і адначасна ўпарадкаваным. Ну і, зразумела, людзі, з якімі абавязкова трэба было перакінуцца добрым словам. Маім вандроўкам у лес і вяртанням пад сцэну нерваў папсавалі крыху занадта цалалюбівыя ахоўнікі, якія за кожным разам мацалі мяне ад галавы па косткі. А мой заплечнік з многімі кішэнямі быў ім так да спадобы як косць для сабакі. Кідаліся на яго з такой заўзятасцю, быццам у ім знаходзілася нейкая падрыўная справа. Ахвярай іх пошукаў за першым разам стаў мой падарожны ножык, а дзесьці з трэцім увахадам невялічкі штопар, які гадамі ляжыць у тым жа заплечніку. Гавару чэсна, не быў ён скарыстаны ў гэты дзень. Але каб увайсці на пляцоўку перад сцэнай, я мусіў з ім нешта зрабіць. І тады для самога сябе вырашыў, што штопар прыхаваю пад адной, толькі мне вядомай сасной. І вярнуся па яго роўна праз год. Таму са сваіх чыста вузкіх і асабістых інтарэсаў спадзяюся, што ў ліпеньскія дні 2020 года пад музыку, плывучую са сцэны, адшукаю свой штопар. Але так на самой справе то хер з гэтым штопарам, абы было толькі «Басовішча». Можа ён спатрэбіцца нейкім грыбнікам, калі апынецца на іх дарозе.

Вандруючы сцежкамі ўспамінаў і барыкоўскага лесу, не мог я не налюбавацца прыгожасцю і стройнасцю растучых там сосен. Праз тыя трыццаць гадоў, здаецца, пайшлі яны яшчэ ўгару і проста зараз гутараць з небам. Проста цуда, калі я прыглядаўся ім і стоячы, і седзячы на лавачках. Узгадаліся першыя «Басовішчы», калі з сябрамі пад соснамі мы правялі два дні і дзве ночы не змяняючы свайго месцазнаходжання. Змяняліся тады толькі бутэлькі з півам. «А то сэ нэ враті», — як гавораць чэшскія суседзі.

У папярэдніх выпусках фестывалю пэўнай традыцыяй можна б нават сказаць, былі дажджлівыя дні, а нават буры. У гэтым годзе сіноптыкі бамбілі нас у суботу папярэджаннямі аб бурах з градам для ўсяго Падляшша. А тут у Барыку пад соснамі стаяла прыгожае летняе надвор'е ў поўнай сваёй красе. Пані лета распусціла ўсе косы спеласці колераў. Прытым вецер не адважыўся зварушыць дастойнасці растучых сосен. У пражэктарах святла са сваёй зялёнасцю іголак зліваліся яны з сінім, а потым зорным, начным небам, заслуханымі ў беларускую музыку. Музыку, якая цягам двух дзён паказала культурна-эстэтычную вандроўку беларускага духу на нашай зямлі. Этна-рокавае падарожжа ў пятніцу яшчэ раз даказала скуль б'юць нашы жыватворчыя крыніцы і як важным ёсць іх умелая адаптацыя да сучасных музычных выклікаў. Усе канцэрты для мяне гэта не толькі сентыментальнае падарожжа з нагоды трыццатага «Басовішча», але нарастучае перакананне, што фестываль усё ж такі не павінен быць апошнім. «Сонца нам дапаможа, яно любіць нас». Гарадоцкі Барык надалей спадзяецца на нас.

Яўген ВАПА

# Жыровічы: аддыхацца ў святой цішыні (4)

Чалавек, хай і апошні грэшнік, сааўтар навакольнай прасторы. Важна які настрой ён прынясе з сабой, як павітаецца са святым месцам...

Вакол крыніцы, дзе яшчэ перад хвілінай дзіка гудзелі мотапілкі, запанавала лагодная ціш. У высі гаманілі старыя кроны альшын, цурчэла святая крыніца. Мы асцярожна ступалі па кладках, што зігзагамі акалялі каплічкі і альтанкі. Увесь рамонтны балаган здаўся непрыкметным імгненнем. Настрой месца мацаваў здаровы халадок, які навяваў ад векавых дрэў.

— Пад гэтымі вольхамі ўсё пачалося, — сцішаным голасам сказала Валя.

У Жыровічах зараз тры святыя крыніцы. Як не дзіўна, тут матэматыка як у народнай медыцыне, дзеля аздараўлення пажадана вада з трох крыніц. Адначасова ў справе вады жывы крэатыў. За кожным разам, калі прыязджаю ў манастыр, народ распавядае пра новыя крыніцы і іх лекавыя якасці. Згаданая рухомасць нярэдка падвяргалася праследам і рэпрэсіям. Вось у савецкія гады ўлады рашылі спыніць паход да старой крыніцы. Яны распусцілі чуткі пра атрутнасць вады і закрылі вадаём. Усё дарэмна! Яшчэ ў той самы дзень у другім канцы пасёлка выбіла новая крынічка. Яе зразу палічылі гаючай і святой.

Калі адзінаццаць гадоў таму я спынілася на тры дні ў манастыры, старая крыніца была закрытай і недаступнай. І зараз у месцы легендарнага з'яўлення мне не хапала старой грушы і пасавога са статкам авечак. Архаічны краявід не падыходзіў да ўбачанага. Частка сакральнай забудовы была ўпрыгожана на манер эстэтыкі рускай казкі ды ў нечым напамінала памесце Дзеда Мароза.

Здзівіў аднак добры, глыбокі смак вады, які на здаровы розум не павінен знаходзіцца сярод забалочанага алешніку і казачных альтанак. Не менш уразіў той момант цішы, быццам дараваны са старога часу. Калі мы пакідалі месца, у рух зноў пайшлі адбойныя малаткі і ажыў рамонтны гармідар.

* * *

Месца, дзе старая крыніца, губляе значэнне каля 1520 года. У пажары згарыць датла драўляная царква, узведзена магнатам Солтанам. Разам загіне і цудоўная іконка. І тут адбываецца нешта падобнае як з вандраваннем святых крыніц. У месцы, дзе зараз сабор і манастыр, з'явілася зноў Божая Маці. Багародзіцу зноў убачылі дзеці. Яна стаяла на камені з іконкай у руцэ. Камень адразу абгарадзілі і ў 1672 годзе над ім была ўзведзена царква Нараджэння Божай Маці, названая ў народзе *Яўленскай.* У алтары пад прастолам змясцілі камень-валун. Пра асаблівасць валуна сведчыла рука з воску, якую павесілі побач, на сцяне. Яна напамінала пра бяду, наклікануюдурнымі паводзінамі малавера ў царкве.

У 1618 годзе нехта Хрыстафор Галяндэр Рамптун прыехаў з жонкай са Слоніма і, ходзячы вакол каменя, у насмешлівым тоне стаў выказвацца пра цуд з'яўлення Божай Маці. Пасля ён дакрануўся яшчэ да валуна, якраз у тое месца, дзе былі адбіты сляды пальцаў Багародзіцы. Хоць скептык быў у пальчатках, ён зразу адчуў пранізлівы боль у руках. Калі ён зняў рукавіцы, дык збялеў і адубеў. Ён пабачыў што ў яго жоўтыя, сухія рукі...

Пасля гэтага, згаданы Рамптун ганяўся па дахтарах, але нідзе не было ратунку. Ён нікому не прызнаваўся ў сваім граху, хаця глыбока ўсведамляў сваё блюзнерства. На ратунак паспяшыла жонка, яна ўгаварыла няверуючага мужа падаць у святое месца і ў слязах прасіць прабачэння. Скораны Галяндэр Рамптун выправіўся пяшком у Жыровічы. Доўга і слязліва ён маліўся перад святым каменем да Прасвятой Дзевы. Адстаяў заказны малебен. А пасля ўжо пакаяны і скораны набожна прыклаўся да валуна. Яшчэ ў гэты дзень ён раздаў многа грошай жабракам і вандроўным дзядам. І цуд здарыўся, наш скептык неўзабаве быў аздароўлены. Пасля ён хадзіў у народ і на працягу дваццаці гадоў распавядаў пра свой грэх і цуд аздараўлення.

Як не цікава, Жыровіцкая ікона, таксама з каменю і яна лічыцца нерукатворнай, то-бок, не зробленай рукой чалавека.

* * *

У паваротнай дарозе ад крыніцы мы ўсё спыняліся, каб спытаць пра адчуванне ў Зоі. Яна, з хворай нагой, ішла наздзіў баявіта і як мы з Валяй, захаплялася спакоем:



Фота Ганны Кандрацюк

Яўленская царква



Фота Міры Лукшы

Ікона на якой першае з'яўленне



Фота Ганны Кандрацюк

Старая крыніца перад рамонтам

— Як добра, як ціха! А дзе ж тыя касцы з касілкамі? Які гэта дурны, хворы час настаў? Ні ў вёсцы, ні ў горадзе нідзе ад гэтага гулу не схаваешся...

Здавалася, у Жыровічах, сапсаваліся ўсе газонакасілкі. На аброслых травой і пустазеллем панадворках пасвіліся козы і гусі. Ніхто не брумкаў трактарам, не гудзеў аўтамабілем, ды нават, як у старыя гады, не кляпаў касу.

— Я ўжо чацвёрты год адна, — пачала Зоя, — і не магу змірыцца з яго смерцю. Валодзя, памёр раптам у 54 гады. Спачатку хацела памерці сама. Без яго жыццё пачарнела. Нішто не цікавіла, работа псавалася ў руках. І толькі нядаўна змагла зняць абручальны пярсцёнак з пальца...

Зоя, хоць інвалідка, усё жыццё цяжка гаравала. З шаснаццаці гадоў пайшла ў калгас працаваць даяркай. Ніякай нядзелі, ні свята за работай не бачыла. Адно што да хаты прыйдзе, ласкавае слова пачуе:

— У нас з Валодзем была звычайная любоў, — кажа, — мы гадавалі дзетак, суцяшалі сябе ў бядзе. Калі ў сям'і была радасць, ён прывозіў яе ў Жыровічы, каб пакланіцца Божай Маці.

Жалоба як нішто ўсведамляе сувязі між людзьмі.

— А вы не думалі ўладкаваць сабе жыццё па-новаму, — спытала я, — выйсці яшчэ раз замуж.

І адразу пашкадавала. Па шчоках у Зоі пацяклі слёзы:

— Пасля яго смерці я не дазваляла, каб нейкі мужчына сеў побач мяне. Бо думала, што такім учынкам здраджу яму ў каханні...

Зараз прыехала ў Жыровічы з роднай сястрой пакланіцца Божай Маці, падзякаваць за вяртанне сілы. З таго моманту, калі зняла абручальны пярсцёнак, пачала саступаць дэпрэсія, павесялела ў галаве. Дзеці падгаварылі зняць кальцо, прымусілі змагацца за сябе.

— Вось і іду з вамі, — здзіўляецца Зоя, — і ногі ў мяне сёння як не свае, такія лёгкія...

(працяг будзе)

Ганна КАНДРАЦЮК

# Інтэррэгіянальна ў Супраслі

На пачатку ліпеня 2019 г. у Супраслі Нацыянальны інстытут тэрытарыяльнага самакіравання сарганізаваў міжнародную тэарэтычна-практычную канферэнцыю, на якой выступілі самаўрадаўцы Польшчы, Нямеччыны, Даніі, Швецыі, Украіны і Беларусі (17 асоб з Брэстчыны і Гарадзеншчыны). Апрача тэарэтычных прадстаўленняў пра магчымасці міжнароднага еўрапейскага супрацоўніцтва паміж краінамі, рэгіёнам і гарадамі, прагучаў таксама інаўгурацыйны даклад «Спадчына Люблінскай уніі 1569-2019» доктара Тамаша Яшчолта з Інстытута гісторыі імя Тадэвуша Мантойфеля ПАН, падляшскага шляхціца. З вельмі цікавым і змястоўным дакладам выступіла м.інш. **Юстына Якубоўская**, галоўны спецыяліст Дэпартамента тэрытарыяльнага супрацоўніцтва Міністэрства інвестыцыі і развіцця: «Інтэррэг як магчымасць для органаў мясцовага самакіравання развіваць міжнароднае супрацоўніцтва». Інтэррэг яўляецца **ключавым інструментам** Еўрапейскага Саюза, які падтрымлівае супрацоўніцтва паміж партнёрамі з розных краін, яго мэта — вырашаць агульныя праблемы і знаходзіць агульныя рашэнні — як у галіне развіцця турызму, навуковых даследаванняў і адукацыі, транспарту, устойлівага развіцця, процідзеяння беспрацоўю, так і ў галіне аховы здароўя. Правяраецца ён у кіраванні агульнымі рэсурсамі: марамі, рэкамі, узбярэжжамі, горнымі раёнамі, прыгранічнымі гарадамі, дзеля паляпшэння даступнасці і патокаў на мяжы. У транспарце, энергетыцы і т.д. — у сумесных дзеяннях па трансгранічных пагрозах: у выпадку стыхійных бедстваў, эпідэмій, аварый; у трансгранічных паслугах для жыхароў, інвестараў і турыстаў; дзеля мабілізацыі рэсурсаў для павышэння канкурэнтаздольнасці эканомікі рэгіёна, лепшай адукацыі і развіцця даследаванняў; падтрымлівання культуры, супрацоўніцтва, наладжвання сувязей і супольнай ідэнтычнасці ды вучобы адзін у аднаго. У праграмах удзельнічаюць краіны і іх рэгіёны, якія належаць да Еўрасаюза, і не толькі, на памежных тэрыторыях, але і з глыбінкі, гарады і мястэчкі-пабрацімы, вырашаюцца праблемы транснацыянальнага значэння. Супрацоўнічаць можа адміністрацыя, установы дзеля дасканалення рэгіянальнай палітыкі, дзеля лепшага выкарыстання розных форм падтрымкі Еўрасаюза. Прыкладам праграм, у якіх удзельнічае Польшча, з'яўляецца трансгранічнае супрацоўніцтва: Паўднёвая Балтыка Меклембургія / Памеранія — Брандэнбургія — Польшча; Брандэнбургія — Польшча; Польшча — Саксонія; Чэхія — Польшча; Польшча — Славакія; Літва — Польшча; Польшча — Беларусь — Украіна; Польшча — Расія; у Праграме транснацыянальнага супрацоўніцтва Інтэррэг Рэгіён Балтыйскага мора. Праграмы датычаць між іншым лепшай вады, лепшай якасці падземных вод, паляпшэння дарожных зносін, адаптацыі мастоў і пагранпераходаў, новых веласіпедных маршрутаў, стварэння спадарожнай інфраструктуры — адпаведных будынкаў, маркіроўка; спалучэнне гмін; супрацоўніцтва паміж гмінамі і паветамі, распрацоўка турыстычных прадуктаў, распаўсюджванне народнага мастацтва і мастацкіх промыслаў, супрацоўніцтва паміж школамі і прадпрымальнікамі, арганізацыя інавацыйных семінараў, мабільных лабараторый, супрацоўніцтва паміж маршалкоўскімі ўстановамі, распрацоўка інавацыйных рашэнняў для абароны і павышэння каштоўнасці культурнай спадчыны Цэнтральнай Еўропы, паляпшэнне якасці абслугоўвання жыхароў у аддзяленнях мяжы, абмен вопытам і лепшымі практыкамі ў галіне паляпшэння якасці абслугоўвання насельніцтва ў офісах; павышэнне кваліфікацыі офісных работнікаў; стварэнне сеткі сучасных адміністрацыйна-сэрвісных цэнтраў для жыхароў гарадоў прыгранічных рэгіёнаў з выкарыстаннем уніфікаваных працэдур, укараненне інавацыйных рашэнняў



і тэхналогій, звязаных сістэмай электроннага патоку дакументаў. Гэта проста лепшы рух на мяжы, паправа жыцця ў памежных зонах, лепшая і чысцейшая прадукцыя і захаванне асяроддзя.

— Чаму варта рэалізаваць праекты Інтэррэг? — пыталася Юстына Якубоўская. — Удзел у міжнародных праектах узбагачае навыкі і веды супрацоўнікаў удзельнічаючых устаноў, дазваляе лепш і свядома падрыхтаваць праекты, якія фінансуюцца з розных сродкаў; міжнароднае супрацоўніцтва спрыяе ўкараненню інавацый, забяспечвае доступ да вопыту і ноў-хау партнёраў з іншых краін; дазваляе тэсціраваць новыя рашэнні ў рамках пілотных дзеянняў. Супрацоўніцтва з замежнымі краінамі паляпшае пазнавальнасць горада, муніцыпалітэта або рэгіёна ў Еўропе і дазваляе пашырыць сеткі супрацоўніцтва; разам з суседам праз мяжу лягчэй натуральнымі шляхамі ліквідаваць бар'еры, якія існуюць у прыгранічных раёнах: інфраструктурныя, фармальна-прававыя, інстытуцыйныя і эканамічныя, сацыяльныя ці фінансавыя. Цяпер выконваюцца апошнія выклікі, толькі ў некаторых праграмах: Польшча — Саксонія, Польшча — Славакія, Літва — Польшча. Працягваюцца ўсе праграмы, а таксама дыскусіі па выбары прыярытэтаў для асобных праграм; пра павелічэнне сродкаў фінансавання інфраструктурных праектаў у праграмах трансгранічнага супрацоўніцтва.

**Магчымасці і кампетэнцыі** самаўрадаў краін з-па-за Еўрасаюза, як з Беларусі, іншыя, але спробы і лады паміж самаўрадамі з польскага боку, як і з беларускага, ёсць, наладжаныя ўладамі, органамі самакіравання і ўстановамі, між іншым, культуры, а таксама прадпрымальнікамі — наладжваюцца і добра спрацоўваюць, як паміж Гайнаўшчынай і Свіслаччынай, у Еўрарэгіёне «Белавежская пушча» і Еўрарэгіёне «Нёман»... Важныя веды, для магчымых удзельнікаў праектаў — як знайсці партнёра, як падаць заяўку, дзе знайсці спонсара.

**Юстына Мушынская**: — Хто аб'яўляе конкурсы, у якіх можа ўдзельнічаць орган самакіравання? Гэта УАК — установы, абвяшчаючыя конкурс у краінах ЕС; тыя конкурсы супадаюць з абвешчанымі ў Польшчы. Тэмы конкурсу сфармуляваны такім чынам, каб можна было знайсці агульную кропку для іх рэалізацыі. Трэба стварыць наш профіль для Еўрапейскага сацыяльнага фонду. Можам знайсці транснацыянальнага партнёра праз Еўрапейскі сацыяльны фонд або самастойна. База даных ужо зарэгістраваная патэнцыяльнымі партнёрамі з краін ЕС, аднак неабавязкова ўсталёўваць супрацоўніцтва з адной з іх. Хто можа падаваць заявы? Арганізацыі, адказныя за стварэнне, рэалізацыю і маніторынг дзяржаўнай палітыкі, а таксама за кантроль і нагляд за гэтай палітыкай, напрыклад, міністэрства, цэнтральныя офісы, а таксама органы мясцовага самакіравання, напрыклад, гміны, паветы; іх саюзы і асацыяцыі — установы рынку працы, напрыклад агенцтва па працаўладкаванні, бюро па працаўладкаванні, установы сацыяльнай дапамогі і інтэграцыі, напрыклад, цэнтры сацыяльнага забеспячэння, школы і ўстановы сістэмы адукацыі, напрыклад, куратары, універсітэты (прыватныя і дзяржаўныя), МСП (катэгорыя мікрапрадпрыемстваў і малых і сярэдніх прадпрыемстваў), няўрадавыя арганізацыі, напрыклад, фонды, асацыяцыі, аб'екты сацыяльнай эканомікі, напрыклад, сацыяльныя кааператывы, сацыяльныя партнёры, напрыклад, прафсаюзы, арганізацыі працадаўцаў, федэрацыі або асацыяцыі няўрадавых арганізацый і суб'ектаў сацыяльнай эканомікі.

**Якія дзеянні** можна рэалізаваць? Гэта распрацоўка новых рашэнняў у супрацоўніцтве з замежным партнёрам (нароўні з укараненнем), імпарт і экспарт новых рашэнняў, іх адаптацыя (укараненне), абмен інфармацыяй і вопытам, паралельнае стварэнне новых рашэнняў (і ўкараненне), ініцыяванне транснацыянальнага супрацоўніцтва, накіраванага на рашэнне праблем у сферы падтрымкі ЕСФ (Еўрапейскі сацыяльны фонд) — у прыватнасці, прафесійная і сацыяльная актывацыя, навучанне на працягу ўсяго жыцця, распрацоўка і рэалізацыя дзяржаўнай палітыкі.

Хто можа атрымаць **дафінансаванне**? Прадметам конкурсу з'яўляюцца праекты, вынікам якіх ёсць супрацоўніцтва з замежным партнёрам (ці партнёрамі) з дзяржавы-члена Еўрапейскага Саюза. Заяўкі на суфінансаванне можна падаць па тэме. Прынамсі, адзін з партнёраў з краіны іншай чым Польшчы, а заяўнік з'яўляецца юрыдычнай асобай з Польшчы. Тыя прапановы тэсціруюцца, і вырашаецца аб тым, ці можна іх ажыццявіць. І сапраўды — калі падаецца заява, цікавая і добра распрацаваная, ёсць заўсёды надзея і шанц, што можна будзе яе зрэалізаваць рознымі ўстановамі, ці будзе гэта «папялушка», якой да жыцця патрэбны багацейшы і больш уплывовы «прынц», ці дзве «сіямскія сёстры», ці «брыдкае качаня», якое зможа пратуліцца да «прыгожага лебедзя» і разам з поспехам зрэалізаваць задуму, на якую можна атрымаць еўрапейскія грошы і добра іх выдаткаваць і размножыць.

**Падляшскае ваяводства** і яго самакіраванне, па ўсёй Еўропе ганарыцца сваёй шматкультурнасцю і шматканфесійнасцю і вылучае свае праекты і ўстановы (таксама напрыклад як БГКТ), якія займаюцца культурай, распаўсюджваннем і развоем, напрыклад, рэгіянальнай мовы і культуры. Тут да гэтага ўключыўся і гаспадар мерапрыемства — бургамістр Супрасля Радаслаў Дабравольскі, які нават загаварыў па-беларуску.

**Агата Пухальская**, дырэктар новастворанага (пасля рэарганізацыі Дэпатрамента культуры і нацыянальнай спадчыны) Бюро культуры Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства: — У сваёй стратэгіі развіцця Падляшскае ваяводства надае вялікую ўвагу развіццю культуры, абароне культурнай спадчыны і неабходнасці захавання і абароны мультыкультуралізму. У гэтай галіне мы можам ганарыцца добрым і інтэнсіўным міжнародным супрацоўніцтвам, у прыватнасці міжрэгіянальным з суседнімі ўсходнімі рэгіёнамі. У 2019 годзе Падляшскае ваяводства і падведамныя ўстановы культуры і мастацтва прадаўжаюць і ладзяць багатае міжнароднае супрацоўніцтва. Асноўным прыярытэтам, накіраваным на такую дзейнасць, з'яўляецца падтрымка культурных ініцыятыў нацыянальных і этнічных меншасцей, якія пражываюць у Падляшскім ваяводстве. Мэтай задачы з'яўляецца выкананне праектаў, якія ўключаюць пабудову дыялогу паміж нацыянальнымі і этнічнымі групамі, арганізацыю або ўдзел у мерапрыемствах, накіраваных на абарону, захаванне і развіццё культурнай самабытнасці, — і пералічвае заданні, да якіх уключаецца МУПВ. — Задачы, якія выконваюцца ў рамках гэтага прыярытэту, у многіх выпадках прадугледжваюць запрашэнне каманд з-за мяжы для ўстанаўлення або ўмацавання супрацоўніцтва паміж камандамі. Напрыклад: «І там жывуць людзі» — Музей і цэнтр беларускай культуры ў Гайнаўцы, «Сустрэчы з Падляшскім фальклорам, традыцыямі і ўкраінскай паэзіяй» — Асацыяцыя ўкраінцаў Падляшша, «Беларуская песня» — Беларускае грамадска-культурнае таварыства, Галоўная ўправа, «Беларускія культурныя фэсты» — Беларускае грамадска-культурнае таварыства Галоўнае ўправа... Нашы ўстановы — Падляшская бібліятэка, Драматычны тэатр імя А. Вянгеркі, Падляшскі музей у Беластоку, Ваяводскі цэнтр анімацыі культуры ў Беластоку, Музей сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы, Падляшская опера і філармонія супрацоўнічаюць з беларускімі ўстановамі, суфінансуюць розныя мерапрыемствы дзеля развіцця мовы і культуры беларускай меншасці, часта з уласных сродкаў; запрашаем беларускія каманды, пашыраем рэпертуар нашага тэатра на беларускі рэпертуар, супрацоўнічаем з тэатрамі ў Гродне і ў Мінску. Падтрымліваем таксама Тэатр Верашлін з Супрасля. Думаем, што нашы праекты будзем працягваць і пашыраць.

Больш канкрэтна на сустрэчы на тэму культурнага і міжасобаснага супрацоўніцтва маглі расказаць дзеячы культуры і самакіравання з Гайнаўкі і Свіслачы, вядомыя ў глыбінцы, куды прыязджаюць запрошаныя калектывы на розныя мерапрыемствы, улюбёныя жыхарамі памежных мясцовасцей. Могуць яны дзейнічаць таксама ў Еўрарэгіёнах — «Белавежская пушча» і «Нёман».

**Цэзары Цеслюкоўск**і, шэф Еўрарэгіёна «Нёман»: — Напрамкамі супрацоўніцтва Еўрарэгіёна з'яўляецца эканамічнае развіццё — паляпшэнне мясцовай эканамічнай сітуацыі, развіццё прадпрымальніцтва, развіццё інфраструктуры, турызму, напрыклад — рэканструкцыя і развіццё Аўгустоўскага канала, стварэнне сістэмы трансгранічных турыстычных маршрутаў: катанне на каноэ, веласіпедныя прагулкі, пешыя прагулкі, ахова навакольнага асяроддзя (ахова ракі Нёман), выкарыстанне аднаўляльных крыніц энергіі, стварэнне трансгранічных ахоўных тэрыторый, навучанне, адукацыя і рынак працы, культура і сацыяльныя пытанні. Гэта і цэнтр прасоўвання нашага Падляшша і памежных рэгіёнаў Беларусі ды Літвы, павышэнне канкурэнтаздольнасці рэгіёна за кошт трансгранічнага выкарыстання вопыту ў прыцягненні замежных інвестыцый. Гэта і міжасобасныя кантакты, эфекты праектаў, суфінансаваных польскім бокам Еўрарэгіёна — НДА (недзяржаўныя арганізацыі), гандлёвыя палаты, школы і вышэйшыя навучальныя ўстановы, установы культуры. Дзякуючы ведам і вопыту развіццё нашага памежжа ідзе ўперад і падае надзею на яшчэ лепшы развой.

(працяг у наступным нумары)

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Свята ў Ваўкавыску

У Ваўкавыску прайшлі традыцыйныя святкаванні дзяржаўнага Дня незалежнасці і свята горада, прымеркаваныя да гадавіны вызвалення Беларусі з-пад нямецкай акупацыі. З гэтай нагоды ў горадзе і Ваўкавыскім раёне былі арганізаваны шматлікія мерапрыемствы. Былі не толькі традыцыйныя ўрачыстыя пасяджэнні і канцэрты. Адбыўся таксама цэлы шэраг іншых ініцыятыў з удзелам насельніцтва. Першыя два тыдні ліпеня былі насычаны падзеямі. Варта ў гэтым месцы прыгадаць м.інш. абласны чэмпіянат па конным спорце, «Кола Купалы або магія купальскай ночы», «Белася Русь — з любоўю да дзяцей», лакальныя дзеянні ў рамках рэспубліканскай акцыі «Праспяваем гімн разам!», конкурс танца «Вальс Перамогі», гала-кацэрт конкурсу «Беларусь — мая песня». Асаблівую ўвагу прыцягнуў «Бег у вышыванках». Спаборніцтва выклікала небывалае зацікаўленне — так што святочных вышыванак усім не хапіла.

Вельмі цікавую акцыю сарганізаваў Раённы цэнтр культуры і народнай творчасці, які разам з ветэранамі падрыхтавалі жыхарам падарожжа ў мінулае. Каб лепш зразумець умовы вайны, падрыхтаваны былі аб'екты перыяду саракавых гадоў — зямлянка штаба, ваенны шпіталь, палявая пошта. Можна было сфатаграфавацца ў тагачаснай ваеннай форме. Працавала таксама палявая кухня з салдацкай кашай. Арыгінальнасцю вылучаўся агляд ваенных фільмаў. Не быў гэта класічны паказ кінастужак. Паасобныя прадпрыемствы на кузавах грузавых машын падрыхтавалі сцэнкі з вядомых ваенных кінафільмаў. На грузавіку працаўнікі завода прадстаўлялі сцэнку з фільма пад гукі музычнага лейтматыву кінакарціны. Самае цікавае, што агляд пачаўся з фільма «Чатыры танкісты і сабака».

З віншаваннямі да прысутных звярнуўся старшыня Раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Сіцько: «Дзень вызвалення з'яўляецца нагодай для ўспаміну аб вялікіх і незваротных стратах, якія пацярпеў беларускі народ у час вайны. Яны адчувальныя і сёння. Трагічныя здарэнні практычна спасцiглі кожную сам'ю. У пажары вайны згарэла жыццё кожнага трэцяга нашага суайчынніка. (...) Акупаваная, але непераможаная Беларусь аказвала небывалы фенамен агульнанацыянальнага супраціўлення захопнікам. Змаганне з фашысцкімі акупантамі за свабоду сфармавала важнасць значэння тых здарэнняў для беларускага народа. Выкавала самыя лепшыя рысы нацыянальнага характару — патрыятызм, мудрасць, веру і аптымізм, якія дапамагалі і дапамагаюць пераадолець разнародныя цяжкасці. Нашай задачай, — адзначыў Міхаіл Сіцько, — як патомкаў і спадчыннікаў пакалення пераможцаў з'яўляецца атрымаць урокі з гісторыі. Зрабіць так, каб такая трагедыя не паўтарылася больш, каб краіна жыла ў міры і дастатку».


Фота Войцеха Цыпайкі



На ўрачыстасці ў Ваўкавыск прыбылі дэлегацыі гарадоў-пабрацімаў з Польшчы, Расіі і Малдовы. Сімвалічныя ўрачыстасці пачаліся з падняцца на флагшток сцягоў дружалюбных самаўрадаў. Партнёры з Польшчы ў сваіх прамовах падкрэслівалі свае добрыя ўражанні ад пабыўкі ў Ваўкавыску. Прэзідэнт Седльцаў Анджэй Сітнік, які пабываў тут не першы раз, звярнуў увагу не толькі на значны ўдзел палякаў у складзе гарадскога насельніцтва, але перш за ўсё на факт, што ў горадзе працуе адна з дзвюх польскіх школ у Беларусі. Сказаў ён: «Пабачыў я горад, які выдатна развіваецца, талерантны горад, у якім згодна жывуць прадстаўнікі розных нацыянальнасцей і веравызнанняў». Седльцы — самы старэйшы польскі горад-пабрацім, але самым блізкім з'яўляецца Міхалова. Бургамістр Міхалова Марк Назарка ацаніў, што супрацоўніцтва прычынілася як для лепшага знаёмства, так і развіцця прыяцельскіх адносін. Адзначыў, што супрацоўніцтва вельмі важнае, калі па абодвух баках мяжы жывуць сем'і, якія раздзяліла гісторыя, але якія жадаюць трымаць з сабою кантакт. Сказаў ён: «Мы да сябе вельмі падобныя. Мяжа, якая нас падзяліла, гэта ўсяго рыска на карце. Паміж людзьмі гэтай граніцы няма. Затое ёсць сяброўскія адносіны паміж людзьмі і краінамі». Падобную ацэнку выказаў Кшыштаф Галашэўскі — бургамістр Лап, які звярнуў увагу на моцныя гістарычныя і культурныя сувязі паміж беларускім і польскім народамі. А Марыюш Клімчук, сакратар Гарадской управы ў Сувалках адзначыў, што самым важным для нашых краін у цяперашні час з'яўляецца развіццё добрасуседскіх адносін. Госці з Польшчы мелі магчымасць лепей пазнаёміцца з Ваўкавыскім раёнам і параз-маўляць з людзьмі. Паводле загадчыцы сектара ідэалагічнай работы Ваўкавыскага райвыканкама Таццяны Сяргеевай, такія сустрэчы служаць узаемнаму збліжэнню, а ўдзел замежных гасцей у важных для жыхароў Ваўкавыска мерапрыемствах указвае на ранг узаемных кантактаў і выдатна служыць прасоўванню рэгіёна.

**Адам БОБРЫК**

# У Міклашах


Васіль Казлоўскі, Надзея Казлоўская, Яўгенія Рыбак, Вера Лемеш

У Міклашы падаюся ў суботні падвячорак. На вуліцы не відаць руху, затое бачна, што панадворкі жывуць. Каляшу на канец вёскі, да чыгуначнай лініі, дзе ў мінулым годзе абвяшчалася пра пабудову каля вёскі пасажырскага прыпынку. І той прыпынак ёсць. Перон выкладзены сучаснай маставой, дзе дарожкі для невідучых. І шырокі, вымашчаны брусчаткай, пад'езд для нехадучых; адно той пад'езд пачынаецца з нічога, г.зн. з пясочку. Паветка для пасажыраў пакуль што ў стадыі каркаса. На рэйках сакавітая іржа. На пераездзе інфармацыя, што сігналізацыя пашкоджана. Перон высокі, сучасны, на ім шэсць ліхтароў. Станцыя ў прывіднай гатоўнасці прымаць пасажыраў.

Вяртаюся ў вёску. І зараз, быццам на заказ, бачу як дзве пажылыя жаночыя постаці спяшаюць у напрамку лавачкі. Падыходжу да іх; далучаецца таксама статны мужчына з залавачнага панадворка. Пытаю пра міклашоўскія агульныя справы. Цяжка так з маршу адказваць пажылым вяскоўцам — яны ж не вядуць кнігаводства, не лічаць колькі каго і колькі чаго ў іхняй вёсцы. Ну, пытанне, колькі яшчэ народу жыве пастаянна ў Міклашах, аказваецца ім даволі складаным для адказу — яны не займаюцца падлікамі насельніцтва. Таксама трэба пачынаць падлік гаспадаруючых гаспадароў з азоў, ды і то не ўдаецца ўстанавіць іх дакладнага ліку. Крыху лягчэй маецца справа са статыстыкай дзяцей — іх у Міклашах больш дзесяці. А і чыгуначны прыпынак не нясе энтузіязму, бо хто ж тым поездам будзе ездзіць, калі ў вёсцы асталіся па сутнасці адно пажылыя людзі. Вось мае суразмоўніцы маюць адна 87 гадоў, а другая 85... І той прыпынак кінулі будаваць, калі на месцы будовы сталі выкопваць чалавечыя косці. Бо там, зараз за пераездам, налева ад дарогі ў Галады былі калісь магілкі. Што гэта за магілкі, дакладна невядома, бо гаварылі пра іх даўнейшыя людзі, але толькі гаварылі, што там магілкі былі і што косці выкопвалі і раней...

Даведаўшыся, што я з „Нівы" мае субяседнікі крыху рассакрэчваюцца. Вера Лемеш, якая з Яўгеніяй Рыбак першыя прыселі на лавачку, з'яўляецца сястрой Васіля Казлоўскага, які далучыўся пазней. У Веры Лемеш сын лекарам у беластоцкім шпіталі:

— Можа калісь здарыцца, што падасць вам руку, — кажа мне спадарыня Вера...

Апошняя фраза напаўняе мяне сімпатычнай цеплынёй. Бо ж паэтычная фраза падаць руку абазначае працягненне рукі дапамогі ў патрэбе. А лекар жа ж менавіта падае руку людзям, якія апынуліся ў небяспецы. Не толькі сын спадарыні Веры лекарам, лекарамі і ягоная жонка і дзеці — унукі спадарыні Веры.

— Магчыма, што людзі тут паўміралі, кажуць, як у Вэрвочках, і сюды сялілі людзей звонку. Наша прозвішча Казлоўскія, — кажа спадар Васіль, — яно ўсюды навокал папулярнае, магчыма, што і нашых продкаў завезлі сюды.

Спадар Казлоўскі яшчэ дадае пра чыгунку, што масты яшчэ будуць будаваць пад толькі што пракладзенай новай лініяй — на Арлянцы і каля Вулькі...

— А найлепш то было б, — рэкамендуюць мне, — зайсці да Аляксандра Орды, ён усё пра вёску ведае. Жыве ён у жоўтай хаце, другой ад канца...

Пытаю пра краму, ці заязджае ў іх вёску самаход з прадуктамі. Штодзённа. І прывозяць усё, нават мяса, бо ў машынах халадзільнікі. А ў Орлю, якая ўпрытык з Міклашамі, не ходзяць за пакупкамі? А гэта ж далёка. Бо сапраўды, з Міклашоў Орля як Варшава з Прагі, з грамадскім цэнтрам і з усімі крамамі на другім беразе ракі. З таго канца вёскі, які бліжэй чыгункі, у арлянскія крамы каля двух кіламетраў. Такая адлегласць не для пажылых ног.

Прапаную маім субяседнікам здымак у „Ніву". Спачатку згаджаюцца, але пасля чую вядомае аднекванне, што яны ўжо пажылыя і г.д. Аднак згаджаюцца... Цяпер выгада, бо ў сучасных фотаапаратах можна на месцы пабачыць, што на здымку атрымалася. Ну і тая іхняя старасць атрымалася цалкам прыстойнай...

З хаты, што за лавачкай, выходзіць жанчына:

— А мяне таксама сфатаграфуйце ў „Ніву", — патрабуе; гэта Надзея Казлоўская, жонка Васіля. Ну то зноў шчоўкаю здымак, цяпер ужо чацвёркі субяседнікаў. Неўзабаве спадарыня Надзея падыходзіць да акна свайго дома і падгалоснівае радыёпрыёмнік — акурат пачынаецца суботні канцэрт па заяўках Радыё Рацыя...

Недалёка паявіўся мужчына на ровары:

— О, гэта Аляксандр Орда, — усклікваюць мае субяседнікі.

— Цяпер у Міклашах семярых гаспадароў абрабляе 640 гектараў, а да 1970 года тыя 640 гектараў абрабляла 65 гаспадароў, а пасля, пасля камасацыі, штораз менш, штораз менш, бо павыязджалі ў гарады. То на сённяшні дзень сем гаспадароў абрабляе 640 міклашоўскага, а яшчэ і за мэжамі, як то мы называем. Але як пра мяне напішаце, то „Ніва" не выдрукуе.

— А чаму?

— Бо я хахол, а вы беларус; вы балты, а я балканскі народ. Так што да Рыбалаў то жыве балканскі народ, бо і наша гаворка падобная на балканскую; дзесяць гадоў таму я чуў славенцаў, то я думаў, што яны з паўднёвай Украіны, а то славенцы спявалі. І мы тут жывём 1600 лет і сёю моваю гаворым; Гацькі таму доказ.

— Але невядома, хто ў Гацьках жыў, — заўважаю.

— Вядома, бо з пятага века раскопкі; і шукалі падобных знаходак і праўдападобна знайшлі на Валыні. І я таксама шукаю.

І паехаў Аляксандр Орда ў свой бок. Неўзабаве і я падаўся ў дарогу. Перад жоўтай хатай, на лавачцы, сядзеў мой нядаўні субяседнік, дапытлівы чалавек з размашыстым балканскім радаводам.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

Віктар Швед

## Абарыгены

Назіраюцца тут змены –
Больш урону, меншы рост.
Сумны лёс абарыгенаў,
Іх вывозяць на пагост.

І таму ў вясковых хатах
Цёмных штораз больш акон.
Гэты хаты поўны страты,
Ім таксама будзе скон.

Нічога дзіўнага, нацменаў
Трактуе большасць праз гады
Як быццам бы абарыгенаў,
І зацірае іх сляды.

Беласток, 14 ліпеня 2019 года.



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



# Незвычайнае ў звычайных рэчах!



— Мне спадабалася на першым летніку і я пачаў сюды прыязджаць, — сказаў Алік. — Робім розныя рэчы, з намі праводзяць файныя заняткі.

— Тут крыху слабы інтэрнэт, але мы вытрымліваем гэта, — рашуча сказала Міхася. — Тут вельмі файна і можна навучыцца больш розным рэчам, чым у школе.

Часта вялікая радасць — адкрыць незвычайнае ў самых звычайных рэчах. У гэтым упэўнены дзеці, якія вывучаюць беларускую мову ў пачатковай школе № 4 у Беластоку. Летнік, які правялі ў Белавежскай пушчы, гэта працяг заняткаў беларускай мовы, але таксама падрыхтоўка да летніх месяцаў, якія можна крэатыўна выкарыстаць.

Сучасныя дзеці — гэта пакаленне карцін. Варта дадаць, што гэтыя, якія былі на летніку, не толькі глядзяць у інтэрнэце фільмы і казкі, але таксама чытаюць. У час летніка рэкамендуюцца дзецям цікавыя беларускія сайты. Можна таксама даведацца, якую музыку варта паслухаць, які кніжкі варта ўзяць у рукі ў час канікул і паглядзець, як многа рэчаў можна зрабіць з карткай папery, калі на двары дождж, а мама на працы.

Заняткі, у час якіх я мела магчымасць пабываць, таксама даказваюць, што ўсе дзеці — мастакі. Не маюць адной мэты ў сваёй бесперапыннай, разнастайнай дзейнасці.

У час летніка не пачуеш пытанняў: „чаму кідаеш мяч, чаму бегаеш, танцуеш?”. Такія пытанні маглі б знішчыць гульню. А гульня звычайна цешыць. Менавіта летнік „чацвёркі” гэта тыдзень беларускіх гульняў.

(уш)

## УВАГА КОНКУРС! № 30-19

**Сіта, не рукамі звіта, круглавіта сшыта, хто адгадае, вялікі розум мае.**

(П.........)

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 11 жніўня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 26: штаны. Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйграла Магда Якубюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Крыты хакей у Гарадку

У Гарадку, ад мяжы з Беларуссю, там дзе фестывалі «Басовішча» і «Сяброўская бяседа», гуляюць у «фларбол», інакш — крыты хакей. У крыты хакей гуляюць дзве каманды, кожная ў пяць гульцоў і ў кожнай ёсць варатар. Гэты спорт прыдумалі ў Швецыі. Гульцы карыстаюцца пластмасавымі клюшкамі і пластмасавым мячом. Каб выйграць матч, трэба забіць больш



галоў за сапернікаў. Фларбол прыйшоў у Польшчу ў 1991 годзе. Першыя каманды з'явіліся ў Гданьску і Гдыні.

У гарадоцкай школе пачалі гуляць у гэты спорт у 1999 годзе. Камандай УКС кіруе Яўген Савіцкі. Трэніроўкі адбываюцца два разы ў тыдзень. Многа гульцоў з Гарадка змагалася ў зборнай Польшчы. Кожны год гарадоцкія фларбалісты ездзяць на лагеры і турніры ў Польшчы і за мяжой. Раней выязджалі мы ў Нямеччыну і Балгарыю, а цяпер з'ездзілі ў Латвію і Чэхію. Цягам гадоў дзяўчаты занялі сем раз першае месца ў Падляшскім ваяводстве і два разы другое месца ў Польшчы.

Я іграю ў гарадоцкай камандзе ўжо чацвёрты год. Гэта маё захапленне. Бягучы 2019 год для нас юбілейны — мы адзначаем 20 гадоў існавання каманды.

**Габрыся Вільдовіч**, «Бел–News»

## Дзённік Сустрэч «Зоркі» (4)

11 чэрвеня, аўторак, гадзіна 10:00

Завітаў да нас вядомы журналіст (і настаўнік) Міхась Сцепанюк. Я яго ведаю з Радыё Беласток, дзе ён працуе. Міхась вядзе перадачу «Пад знакам Пагоні». У ёй змяшчаюць інфармацыі пра галоўныя падзеі беларускай нацыянальнай меншасці на Падляшшы. Пасля гутаркі пра журналістыку я мела магчымасць (разам з маёй рэдакцыяй) удзельнічаць у майстар-класах з Міхасём Сцепанюком. Мы, хаця праз хвіліну, маглі адчуць сябе як сапраўдныя журналісты.

(працяг будзе)

Ева Іванюк, Галоўны рэдактар «Бел-News»

## *Сустрачанскі апытальнік*

### Наталля Кандрацюк-Свярубская — журналістка, падарожніца, аўтарка кніжкі «Муха ціп-топ».

**1. Сустрэчы «Зоркі» гэта для Вас:**

— Добрыя ўспаміны.

**2. Любімае слова на беларускай мове:**

— «Цікава».

**3. Найпрыгажэйшае месца на свеце:**

— Італія.

**4. Галоўнае правіла журналіста:**

— Аб'ектыўнасць.

**5. Найцяжэйшая праца для Вас гэта:**

— Public relation

**6 Што Вас натхняе:**

— Падарожжы, людзі, добрыя тэксты.

(Апытальнік правялі журналісты рэдакцыі «Шэпты з шафы».



**Малгажата Астроўская,**
«Шэпты з шафы»

## Мама

Рукі маёй мамы невялікія,
часам строгія, але лагодныя.
Раз нешта пакажуць,
другі раз чагосьці забароняць.

Голас яе наймілейшы ў свеце,
супакоіць мяне, пакажа дарогу.
Часам ён строгі як рукі,
але не сцярпіць нашай разлукі.

Вочы яе сінія як неба,
сочаць за мною
з клапатлівай усмешкай.
Калі я загляну ў іх глыбіню,
успамінаю пяшчотныя дні дзяцінства.

Я цябе, мама, найлепш запамятаю,
кожны твой дотык, кожны твой позірк,
твае словы і нашы расстанні,
я цябе мама бязмерна кахаю.

## Польска-беларуская крыжаванка № 30-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 26-2019:**

Жыта, ты, марш, Ала, раса, на, жырафа, шафа, корм, сталіца, боты, гід. Танк, жыла, шост, ты, жарты, рыфма, мара, аса, міг, драфа, ці, абрад.

Узнагароду, **запісную кніжку**, выйграла **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



# Разнароднасць рукадзелля, страў і музычных прапаноў на *Кірмашы зубра*

**Кірмаш зубра, арганізаваны 14 ліпеня ў Гайнаўцы, быў вельмі багаты па колькасці прэзентаваных у гарадскім парку рукадзелля мясцовых страў і музычных выступленняў. У гарадскім парку свае прадукты прэзентавалі і прадавалі больш за 120 айчынных і замежных творцаў. На вялікае мерапрыемства, трынаццаты раз арганізаванае Гарадской управай Гайнаўкі і Гайнаўскім домам культуры, сёлета пад ганаровым патранатам маршалка Падляшскага ваяводства, прыбылі калектывы з Польшчы, Рэспублікі Беларусь, а таксама спевакі з Латвіі і Літвы.**

— Кірмаш зубра — добрая нагода, каб будаваць марку нашага горада спалучаную з маркай рэгіёна Белавежскай пушчы. Мы паказваем якасныя мясцовыя прадукты і заадно працуем на марку Гайнаўкі, — сказаў гайнаўскі бургамістр **Ежы Сірак**.

Кірмаш зубра адкрыў бургамістр. Мерапрыемства ўдастоілі староста Гайнаўскага павета Андрэй Скепка і дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч. Многа людзей прыехала на кірмаш за пакупкамі і паслухаць песні, а дзеткі актыўна праводзілі час у адмысловым гарадку гульняў. Наведвальнікі кірмашу ахвотна куплялі здаровае харчаванне, тканыя і карункавыя абрусы, сурвэты, народнае рукадзелле і сучаснае мастацтва. Людзі збіраліся таксама каля вакальных калектываў, якія шпацыравалі па паркавых дарожках і спявалі перш за ўсё меладычныя беларускія песні.

— Звыш 120 удзельнікаў Кірмашу зубра паказваюць і прадаюць свае прадукты. Прыехалі госці з Рэспублікі Беларусь, — заявіў дырэктар ГДК **Расціслаў Кунцэвіч**.

Падчас сёлетняга кірмашу вылучана была кулінарная зона «Смакі Гайнаўкі», у якой можна было купіць прадукты рэгіёна Белавежскай пушчы.

— У гэтым годзе асаблівую ўвагу мы адвялі мясцовай кухні, якой козыры прэзентуем на спецыяльна выдзеленай зоне, якую назвалі «Смакі Гайнаўкі. Зона мясцовых прадуктаў рэгіёна Белавежскай пушчы». Прэзентуюцца тут між іншым прадукты выкананыя з зёлак гайнаўскімі суполкамі «Руна» і «Эка-гарбата», якія прапануюць паспрабаваць іх прадукты, — паінфармавала **Магдалена Хірко** з магістрата Гайнаўкі.

— У «Зону гайнаўскага марцінка» прыходзіць многа людзей. Зараз адбываюцца тут майстар-класы па выкананні марцінка, згодна з мясцовым рэцэптам, у якіх прымаюць удзел дзеткі. Расказваю я зацікаўленым, як робіцца пячэнне марцінак, каб маглі зрабіць яго дома, — сказала спецыяліст па выкананні марцінка **Іаанна Бінчыцкая** (асобна праведзены быў конкурс ведаў па выкананні марцінка).

Актыўнымі ў час кірмашу былі жыхары вёсак Гайнаўшчыны. Жанчыны з гуртокў вясковых гаспадынь «Езяранкі» з Семяноўкі і са Старога Беразова прапанавалі паспрабаваць выкананыя імі стравы. Жанчыны з гуртка вясковых гаспадынь «Барысаўка» і асобы з тэматычнай вёскі «Барысаўка — драўляная вёска» арганізавалі майстар-класы па выпечцы пернікаў, якія дзеткі выконвалі так, як рабілася ў мінулым, «з машынкі». Аб'яднанне «Крыніца» з Ліпін наладзіла майстар-класы па выкананні пячатак з бульбы, а члены тэматычнай вёскі «Ліпіны — вёска бульбы» прапанавалі паспрабаваць бульбяныя дранікі і кішку. Цікавым атрымаўся абрад «Выпечка вясельнага каравая», які запрэзентавалі жанчыны з вакальнага калектыву і гуртка вясковых гаспадынь з Дабрывады, які суправаджаўся дыялогамі і спяваннем фальклорных песень. Айцец Адам Ляўчук прэзентаваў сыры з Белавежскай пушчы сваёй вытворчасці. У месцы прамоцыі Гарадскога асяродка культуры і спорту «Гладышка» з Кляшчэляў праводзіліся майстар-класы па выконванні прац з прыроднымі матывамі. Падвядзеннем вынікаў дзейнасці кулінарнай зоны быў «Конкурс на самую лепшую пушчанскую страву з пахам зёлак», на які былі падрыхтаваны сем салодкіх і сем салёных прадуктаў. Камісія, якую ўзначаліў бургамістр Ежы Сірак, вылучыла пераможцаў. Першае месца камісія прысвоіла шарлотцы, выкананай камандай «Барысаўкі, вёскі драўлянай». На другім месцы апынуўся шмалец з агурочкамі, падрыхтаваны гуртком вясковых гаспадынь «Езяранкі» з Семяноўкі, а на трэцім — варэнікі з ягадамі гуртка вясковых гаспадынь са Старога Беразова. Удзельнікі кірмашу куплялі, між іншым, хлеб спечаны паводле мясцовых рэцэптаў, мёд, традыцыйныя вяндліны. З дзеткамі спаткаўся гайнавянін Томаш Самойлік — аўтар кніжак аб зубры Помпіку. Падпісваў ён свае выданні, якія можна было купіць у «Сямейнай зоне зубра Помпіка», дзе ладзіліся гульні і майстар-класы з героямі кніжак аўтара.




У час кірмашу можна было пашырыць веды аб турыстычных козырах рэгіёна Белавежскай пушчы. Мясцовыя народныя творцы прапанавалі купіць карункі і вышыўку. Люцына Зданоўская з Нараўчанскай гміны прывезла карунковыя работы і вучыла дзетак выконваць лялькі з тканіны. Можна было купіць кошыкі і прадукты з ракіты, гліняны посуд. Дзеткі і дарослыя маглі паспрабаваць працы за ганчарскім колам. Ян Врублеўскі з Гайнаўкі прадаваў дэкаратыўныя прадметы з драўніны.

— Я прадаю свае дэкаратыўныя і практычнага выкарыстання прадукты з драўніны, якія выконваю здаўна, на мерапрыемствах і ў магазінах з дэкаратыўнымі прадметамі, — заявіў **Ян Врублеўскі**.

Побач рукадзельнікаў свае працы прэзентавалі таксама мастакі. З Маладзечна, з Рэспублікі Беларусь, прыехала мастачка, спецыяліст па выцінанцы Вольга Бабурына, якой працы вядомыя ў Польшчы і ў іншых еўрапейскіх краінах.

— Калі я раблю выцінанкі, карыстаюся кампазіцыямі і сімваламі з народнага мастацтва, якія становяцца для мяне інспірацыяй для выканання аўтарскіх прац. Тут прэзентую выцінанкі з раслиннымі матывамі. На маіх выцінанках відаць коней — сімвал поспеху, катоў з казак, птушак, зуброў. Тут арганізавала я майстар-класы для дзетак па выкананні выцінанак, каб заахвоціць іх да гэтай актыўнасці. Я працую загадчыцай секцыі выцінанкі ў Беларускім саюзе майстроў народнай творчасці і карыстаюся званнем народнага майстра. Мая выстава выцінанак «Дэкларацыя правоў чалавека» паказвалася ў Гайнаўскім беларускім музеі, а экспазіцыя выцінанак з князямі Вялікага Княства Літоўскага і каралямі Польшчы прэзентавалася ў Музеі ў ратушы ў Бельску-Падляшскім, — распавяла **Вольга Бабурына**.

— Мы з Жаночага вакальнага калектыву «Мілавіца», які дзейнічае пры Доме культуры ў Свіслачы. Ужо чарговы раз прыехалі на Кірмаш зубра. Тут мы спяваем беларускія народныя песні, ходзячы паміж прадаўцамі і выступаючы на сцэне амфітэатра. Можам таксама купіць сабе сувеніры і здаровае харчаванне, — заявіла **Наталля Бубен** з «Мілавіцы».



■ З Маладзечна прыехала спецыяліст па выцінанцы Вольга Бабурына

— Я з вакальнай групы «Надзея» з Пружанскага раёна. У Гайнаўцы мы спяваем не першы раз і я бачу, што публіцы тут падабаюцца нашы беларускія меладычныя песні, якія з'яўляюцца асновай нашага рэпертуару. Калі мы ходзім па дарожках парку і спяваем, людзі падпяваюць нам і апладзіруюць, — сказала спявачка калектыву «Надзея».

У парку я спаткаў таксама спевакоў з Латвіі і Літвы, якія рыхтаваліся да выступу.

— Я член рады Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве. Яны актыўныя і выходзяць да беларусаў у Літве з рознымі праявамі беларускай культуры. У Вісагіне, дзе я жыву, заснаваны Беларускі культурны цэнтр «Крок». Пры ім дзейнічае беларускі калектыў «Світанак», да якога я належу. Сёння буду спяваць сола на сцэне. Прыехаў я сюды з латышскай дэлегацыяй з Дагды, каб перад публікай у Гайнаўцы выступіць з беларускай праграмай, — распавёў спявак і актыўны грамадскі беларускі дзеяч з Вісагіны **Сяргей Шабадалаў**.

У Народнай студыі з латышскай Дагды выступілі беларуска і прадстаўніцы іншых нацыянальнасцей на беларускай і іншых славянскіх мовах.

— Мы сюды прыехалі дзякуючы музычнаму кіраўніку калектыву «Нараўчанкі» з Нараўкі Пятру Скепку. Шкада, што наш беларускі калектыў «Аколіца» з Дагды не змог сюды прыехаць, паколькі выступае якраз на Славянскім базары ў Віцебску, — заявілі спявачкі з Дагды.

Пётр Скепка ўдакладніў, што беларускі калектыў «Аколіца» дзейнічае пры Беларускім таварыстве «Вербіца» ў Дагдзе, а кантакты з беларусамі з Дагды наладзіў, пабываючы ў Рэспубліцы Беларусь. Музычны кіраўнік «Нараўчанак» Пётр Скепка ў час выступаў у парку састаўляў акампанемент на акардэоне сваім спевакам і гасцям з Латвіі. Яны супольна спявалі побач прадаўцоў і пакупнікоў беларускія песні, а ахвотных таксама танцавалі. Займальна запрэзентаваўся з беларускім рэпертуарам хор «Рэха пушчы» Гайнаўскага дома культуры пад кірункам Аліны Негярэвіч.

— У нашым хоры «Цаглінкі» з Ляўкова выступае больш за 20 асоб. У час фэсту ў Ляўкове на Пятра і Паўла мы спявалі новыя беларускія песні. Тут разам з калектывамі з Беларусі будзем спяваць вясёлыя і меладычныя песні, каб развесяліць удзельнікаў Кірмашу зубра, — сказаў музычны кіраўнік «Цаглінак» **Мікола Мяжэнны**, які састаўляў акампанемент на баяне спевакам свайго хору і калектывам з Беларусі, якія выступілі ў парку. Члены «Цаглінак» распавялі аб супрацоўніцтве свайго хору з калектывамі з Высокага Камянецкага раёна і Гродна. Усе калектывы пазней цікава запрэзентаваліся на сцэне амфітэатра. Удала выступілі там таксама калектыў песні і танца «Малое Падляшша» з Сямятыч і хор леснікоў Белавежскай пушчы. Багуслава Чаркоўская паказвала вопратку з матывамі Белавежскай пушчы. У канцы мерапрыемства выступілі калектывы «Чарамшына» і «Тугай-Бэй», а музыку да танцаў на заканчэнне мерапрыемства падбіраў «Янгер». Кірмаш зубра даў гайнавянам магчымасць святочна і прыемна правесці час, зрабіць пакупкі здаровага харчавання, рукадзелля, мастацтва і паглядзець займальныя выступы.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Да „круглага стала”

**4 чэрвеня ў беластоцкай Падляшскай ксёнжніцы адбылася навуковая канферэнцыя „Чэрвеньскія выбары 1989 года на Беласточчыне”, прымеркаваная да трыццацігоддзя падзеі. Мерапрыемства ладзілі Беластоцкае аддзяленне Інстытута нацыянальнай памяці і Падляшская ксёнжніца.**

Даклад „Шлях да чэрвеньскіх выбараў 1989 года” зачытаў дырэктар Беластоцкага аддзялення ІНП Пётр Кардэля. Паколькі ад згадваных падзей мінула больш чым трыццаць гадоў, варта прыгадаць якімі шляхамі-дарогамі лавіравалі тады галоўныя суб'екты тагачасных падзей у нашай краіне, таму абшырныя вытрымкі з даклада...

KONFERENCJA NAUKOWA

WYBORY CZERWCOWE 1989 ROKU NA BIAŁOSTOCCZYŹNIE – PERSPEKTYWA XXX LECIA

4 VI 2019

godz. 13:00

Książnica Podlaska im. Łukasza Górnickiego w Białymstoku
ul. Marii Skłodowskiej-Curie 14 A
VI piętro

Organizatorzy

Patronat

Тая Народная Польшча, з якою мелі мы дачыненне з канца Другой сусветнай вайны да пачатку 1990-х гадоў, была ўвесь час паліцыйнай дзяржавай і толькі дзякуючы камуністычнаму апарату рэпрэсій магчымае было так доўгае ўтрымліванне палякаў у аковах савецкага зняволення. Напэўна вялікі ўплыў на адраджэнне пасля камунізму незалежнай Польшчы мелі такія падзеі як выбар кардынала Караля Вайтылы на папу, змена міжнароднай сітуацыі, асабліва ў нашага тут усходняга гегемона, а таксама прыход да ўлады ў ЗША ідэйнага антыкамуніста Рональда Рэйгана. Аднак нам вядома, што без волі палякаў быць самастойным народам нічога не далі б тыя ўсе вонкавыя акалічнасці, не вярнулі б мы, не хочучы самі, жаданай незалежнасці. Варта заўважыць, што ў СССР пасля прыходу да ўлады Міхаіла Гарбачова, 25 красавіка 1985 года, у ходзе сустрэчы дзяржаўных лідараў усходняга блока ў Варшаве быў падпісаны пратакол пра пралангацыю на дваццаць гадоў Варшаўскага дагавора. Усведамляючы глыбокі крызіс савецкай гаспадарчай сістэмы, Гарбачоў пастулаваў, каб своечасова пазбывацца ўзаемных прэтэнзій і варожасці. Найважнейшае аднак было яго сцвярджэнне, што кожная з брацкіх партый самастойна акрэслівае сваю палітыку і за яе адказная перад сваім народам. Савецкі лідар намякнуў пра магчымасць пашырэння аўтаноміі ў паасобных краінах усходняга блока, лічачы аднак, што падпісаны ў Варшаве акт з'яўляецца выразам яго адзінства і сілы. Спроба гарбачоўскай перастройкі не здолела спыніць разладу сістэмы. Гарбачоўскай лібералізацыі рашуча супрацьстаўляўся партыйны і гаспадарчы апарат; ва ўласным інтарэсе — бо не хацеў адмаўляцца ад сваіх прывілеяў. У той час у ПНР сітуацыя пачала ўскладняцца. Паколькі рэпрэсіі ваеннага становішча значна прыдушылі грамадскі супраціў, аднак той супраціў пануючай уладзе ўсё жыў і мацнеў. Палякам было даволі камуністычнага праўлення. Нарастала грамадская незадаволенасць, якая магла выліцца ў магутны, непрадбачаны выбух. Побач традыцыйных, варожых камуністычнай сістэме структур, сталі ўзнікаць новыя. Змены ў СССР сталі добрым зачынам для таго, каб камуністы ў ПНР сталі думаць пра новую палітычную раздачу. З вясны 1985 года меркавалі, ці не прызначыць прадстаўнікам незалежных асяроддзяў, не звязаных з ПАРП і яе спадарожнікамі, ад сарака да пяцідзесяці месцаў у парламенце. Хаця гэтая задума правалілася, аднак яна турбавала правячую экіпу. У верасні 1986 года звольнена каля двухсот палітычных вязняў, у іх ліку найбольш вядомых апазіцыянераў. Перасьлед не спыніўся, але палітычныя справы замiж трапляць у суды, разглядаліся калегіумамі па справах правапарушэнняў. Кіраўніцтва салідарніцкай апазіцыі, якую прадстаўляла Часовая каардынацыйная камісія, прыхільна паставілася да амністыі, аднак надалей пастулавала вяртанне прафсаюзнага плюралізму, перабудову гаспадарчай сістэмы ды стварэнне магчымасці незалежнай грамадскай дзейнасці. У той час грамадскія настроі сталі радыкальна пагаршацца, асабліва на зломе 1986 і 1987 гадоў. Палякі штораз больш адмоўна ацэньвалі гаспадарчую сітуацыю краіны, а за гэтым ішлі штораз горшыя ацэнкі палітычнай сітуацыі. Улада стала апасацца выбуху грамадскага незадавальнення. Прапагандысты ЦК ПАРП прыдумалі чарговую кампанію, г.зв. другі этап гаспадарчай рэформы. Яе звянчэннем меў стаць агульны рэферэндум, як выраз грамадскай падтрымкі для ўрадавай праграмы рэформ. Аднак задума была дрэнна падрыхтавана і ў выніку галасавання з лістапада 1987 года аказалася правалам камуністычнай улады. Тая няўдача схіліла дзяржаўнае кіраўніцтва да апрацавання новай канцэпцыі дзеяння — кантралявай дзяльбы ўлады з г.зв. канструктыўнай апазіцыяй. Асобай, якая думала пра дыялог з камуністамі быў лідар „Салідарнасці” Лех Валэнса і яго атачэнне; доказам гэтаму было публічнае выказванне з верасня 1986 года Бранiслава Герэмка, а сам Валэнса ў кастрычніку таго ж года звяртаўся да амерыканцаў за ўхіленне эканамічных санкцый супраць ПНР. Гэтыя прымірэнчыя крокі не прынеслі апазіцыі ніякіх вынікаў. Атачэнне Валэнсы ў кастрычніку 1987 года рашыла прызначыць заміж канспіратыўнага яўнае кіраўніцтва „Салідарнасці” ў выглядзе Краёвай выканаўчай камісіі. У канцы 1987 года тайныя ці яўныя апазіцыйныя структуры не былі тады камуністам ніякім сакрэтам. З запісных кніг МУС з паловы кастрычніка 1987 года вынікае, што Служба бяспекі на 284 нелегальныя структуры, дваццаццю сямі магла кіраваць як хацела, 239 структур кантралявала аператыўна, маючы поўную пра іх інфармацыю і іх планы дзеяння, а васямнаццаццю структурамі нават не цікавілася. Сам Валэнса быў пастаянна і комплексна інвігіляваны бяспекай. Першыя спробы канфідэнцыйных кантактаў улады з кіраўніцтвам „Салідарнасці” пачаліся ў красавіку 1988 года ў ходзе забастовак і пратэстаў; першай была забастовачная акцыя працаўнікоў гарадской камунікацыі ў Быдгашчы, пасля гута імя Леніна, гута Сталёва Воля, гданьская верф. Аднак вынікаў гэта не дало з прычыны жорсткага здушэння пратэстаў. Калі заламаўся страйк у Гданьску, было ўражанне, што апазіцыя прайграла. Толькі вузкае кіраўніцтва ПАРП, даследуючае апытаннямі грамадскія настроі, ведала, што гэта толькі пачатак магутных завіраванняў прагназаваных на восень 1988 года. Улада апасалася гэтага непадкантрольнага выбуху і таму пасрэдніцтвам Каталіцкага касцёла звярнулася да апазіцыі з прапановай перагавораў. Спадзяваныя на восень забастоўкі пачаліся аднак ужо ў палове жніўня 1988 года; спярша шахцёры з „Ліпеньскага маніфеста”, а пасля і чатырнаццаць чарговых шахт. Хваля забастовак пашыралася... 24 жніўня Анджэй Стэльмахоўскі і Бранiслаў Герэмэк перадалі Юзафу Чырку, сакратару ЦК ПАРП нататку з прапанований размоў пры круглым стале. 31 жніўня Лех Валэнса сустрэўся з Чэславам Кішчакам, трымаючыся пазіцыі, што згодзіцца на размовы, калі ўлады афіцыйна загарантуюць легалізацыю „Салідарнасці”. Хаця міністр Кішчак не прыняў прапановы, Лех Валэнса выступіў з заклікам спынення забастовак, што не ўсім падабалася, аднак страйкі былі спынены. Чарговыя размовы не давалі вынікаў, і ў палове верасня быў пашыраны круг размоўцаў. У выніку страйкаў 27 верасня кабінет Збігнева Меснера быў замешчаны ўрадам Мечыслава Ракоўскага, у якім апынуліся новыя асобы. Быў прыняты закон пра гаспадарчую дзейнасць з удзелам замежных суб'ектаў; быў гэта адзін з элементаў г.зв. другога этапу гаспадарчай рэформы. Гэты закон, аўтарства міністра гаспадаркі Мечыслава Вільчка быў недасяжным узорам цягам дваццаці гадоў незалежнай Польшчы. Варта аднак заўважыць, што ўжо ў студзені 1987 года дарадцы Войцеха Ярузельскага прапанавалі планавае падштурхоўванне людзей, якія стваралі базу апазіцыі, у бок прыватнай прадпрымальнасці. Аблягчэнне ім засноўвання інтарэсаў мела іх адцягнуць ад палітыкі ў бок абагачэння і паставіць у залежнасць ад розных уладных кантроляў і даць магчымасць праследавання апазіцыянераў як падатковых ашуканцаў ці проста крымінальных злачынцаў; такі сцэнарый не спрацаваў. Прыняцце такіх гаспадарчых свабод апошнім камуністычным урадам ПНР не было выпадковае; частка пануючай у ПНР эліты, развіталася з прапагандаванай раней сабою ідэалогіяй. Гэта стварыла нагоду для перайманне нацыянальнага маёнтку ранейшымі ўладнымі элітамі. Паступовая лібералізацыя з адначасным слабеннем манаполіі камуністычнай улады асмеліла апазіцыю; восенню 1988 года знізу сталі ўзнікаць фабрычныя камітэты „Салідарнасці”, сталі распаўсюджвацца незалежныя выданні, аднак прагрэсу ў размовах не было. Таму ў снежні 1988 года Лех Валэнса заснаваў Грамадзянскі камітэт пры старшыні НСП „Салідарнасць”, які меў стаць кадравай базай прафсаюза ў размовах з уладамі і таксама меў быць выгаднай супрацьвагай Краёвай пагаджальнай камісіі, дзе погляды Валэнсы не заўсёды адабраліся. Адпаведна падабраны камітэт гарантаваў Валэнсе дамаўленне з камуністамі. Вялікую ролю ў прасоўванні размоў апазіцыі з уладай адыграла тэледэбата Альфрэда Мядовіча, старшыні Агульнапольскага паразумення прафсаюзаў з Лехам Валэнсам з 30 лістапада; яе ініцыятарам быў Мядовіч. Валэнса, ва ўспрыняцці палякаў, аказаўся лепшым палемістам. Тэледэбата і яе грамадскі водгалас ды ўдалы тагачасны візіт у Францыю Леха Валэнсы схілілі камуністаў да пачатку размоў пра легалізацыю „Салідарнасці”. Пераломным у гэтым плане быў Дзясяты пленум ЦК ПАРП у студзені 1989 года, калі, насуперак вялікаму супраціўленню дзеячаў сярэдняга апарату ПАРП, кіраўніцтва партыі з Ярузельскім і Кішчакам на чале, халадна разлічваючы на эвалюцыю камуністычнай сістэмы ў напрамку дэмакратычнай дзяржавы законнасці і рыначнай гаспадаркі, прасунула канцэпцыю легалізацыі „Салідарнасці”, каб ухіляючыся ад адказнасці за гады камунізму неўзабаве ператварыцца з ярых камуністаў у найлепшых капіталістаў. У канцы студзеня 1989 года ў час чарговай сустрэчы Валэнсы з Кішчакам прынята парадак размоў пры „круглым стале”, дзе мела быць месца пяцідзесяці шасці асобам: апазіцыі дваццаць крэслаў, для Агульнапольскага паразумення прафсаюзаў шэсць, для кааліцыі ПАРП з саюзнікамі чатырнаццаць, для незалежных аўтарытэтаў чатырнаццаць і два месцы прадстаўнікам Касцёла. Там меў быць выпрацаваны грамадзянскі дагавор, даючы падставу звярнуцца да Рады дзяржавы за зменай закону пра прафсаюзы. Істотным матывам згоды камуністаў на размовы было пагаршэнне грамадскіх настрояў у краіне і радыкалізацыя актыўнай палітычна моладзі. Размовы „круглага стала” доўжыліся ад 6 лютага да 5 красавіка 1989 года; адной з мэт іх былі, як гэта назваў міністр Кішчак, неканфрантацыйныя выбары. У размовы было заангажавана каля сямісот асоб, удзельнічаючых у сустрэчах у рамках розных груп і падгруп. Новую выбарчую ардынацыю прыняў Сейм два дні пасля завяршэння размоў „круглага стала”, дзе навізной былі цалкам свабодныя выбары ў Сенат і магчымасць здабыць 35% месцаў у Сейме ў выніку свабоднага выбарчага спаборніцтва. Пра далейшы лёс падзей мелі вырашыць грамадзяне 4 чэрвеня 1989 года.

У ходзе канферэнцыі былі зачытаны і іншыя даклады, якія не мелі так агульнага характару. Эмілія Свентахоўска расказала пра паўстанне Грамадзянскага камітэта ў Беластоку, Павел Пётр Варот пра адлюстроўванне чэрвеньскіх выбараў 1989 года ў партыйнай прэсе Беласточчыны, Яланта Драздоўская пра архіў беластоцкага аддзялення ІНП ды Ізабела Куна пра адлюстраванне 4 чэрвеня 1989 года ў іканаграфіі архіва беластоцкага аддзялення ІНП.

Аляксандр ВЯРБІЦКІ

# Дзясятая пятніца пасля Пасхі ў Райску

5 ліпеня (дзясятая пятніца пасля Пасхі — дзень Пяценкі) адбыліся ўрачыстасці прыходскага свята Багародзіцы ў парафіі святых апосталаў Пятра і Паўла ў Райску. У набажэнстве прынялі ўдзел парафіяне, госці і шматлікія прадстаўнікі духавенства.

Літургіі ў гэтым годзе старшыняваў мітрафорны протаіерэй Рыгор Місіюк, настаяцель парафіі св. Георгія Пабеданосца ў Беластоку, а разам з ім — дванаццаць святароў Бельскага благачыння, а таксама з Ласінкі, Гайнаўкі, Кастамалатаў, Любліна і Вроцлава. Пасля чытання Евангелля з казаннем да вернікаў звярнуўся айцец протаіерэй Марк Якімюк, настаяцель парафіі ў Малешах.

Пасля літургіі адбыўся хрэсны ход, падчас якога маліліся і над прыцаркоўнай магілай за святароў Андрэя і Іосіфа Сасноўскіх, Стэфана Іванкевіча і ўсіх трагічна загінулых у Райску, а таксама адмовілі малітву на дабраславенне руты і іншых ядомых зёлак. Напрыканцы за актыўны ўдзел і малітвены настрой духавенству і ўсім вернікам падзякаваў а. Рыгор Місіюк і настаяцель парафіі а. Яраслаў Годун. Падчас урачыстасці спяваў прыходскі хор пад кірункам матушкі Ірэны Годун.

Неабходным элементам прыходскага свята з'яўляецца малітвеная памяць пра памерлых. Традыцыяй парафіі Райск ёсць памінанне памерлых у нядзелю пасля свята. Сёлета ў нядзелю (7 ліпеня) літургія і паніхіда ладзіліся ў капліцы святой пакутніцы Параскевы на прыходскіх могілках у Райску. Адбылося таксама асвячэнне магіл святарамі, які прыбылі з Плёсак і Варшавы.





Варта прыгадаць факт, што на тэрыторыі прыходскіх могілак, заснаваных у 1855 годзе, знаходзіцца памятны надмагільны помнік сям'і Нікіціных. Увесь надмагільны ансамбль — помнік з белага мармуру і чыгунная агароджа ў мінулым годзе былі адноўлены. Дзякуючы грамадскай камісіі аднаўлення помніка і старанням настаяцеля парафіі ўдалося атрымаць грант з Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства і правесці ў 2018 годзе абнаўленне помніка пад наглядам Ваяводскага захавальніка помнікаў у Беластоку.

Айцец **Андрэй КАНАХОВІЧ**

Фота аўтара




**http://mmkut.by**

Калі больш за пятнаццаць гадоў таму „Ніва" пачынала распавядаць пра сайты Байнэта, то пра такую з'яву як інтэрнэт-крамы яшчэ нават гаворкі не ішло. Сёння ўжо нікога не здзівіш закупамі праз інтэрнэт, бо настолькі трывала анлайн-продаж увайшоў у наша жыццё, што часцяком рэальны паход у магазін з'яўляецца выключна рытуалам пад назвай „шопінг", але да сапраўднага набыцця чагосьці можа нават і не дайсці.

Апошнім часам павялічваецца і колькасць інтэрнэт-крамаў, якія арыентаваны на продаж тавараў з, так бы мовіць, беларускай нацыянальнай афарбоўкай. Адной з такіх з'яўляецца віртуальны магазін „Мой модны кут", які месціцца па адрасе https://mmkut.by. „Крама з нацыянальным каларытам", — пазначана на галоўнай старонцы сайта пад яго назвай. На інтэрнэт-пляцоўцы падтрымкі жывой беларускай мовы Say.by ён пазначаны як крама нацыянальнага адзення і сувеніраў.

„Тут вы зможаце «абвышываніць» сябе, сваякоў, сяброў, кватэру, машыну і г.д. У краме ёсць маленькія і вялікія памеры, прадаюцца саколкі, байкі, шапкі ды шалікі, карацей кажучы, вопратка на кожную пару года. Вы знойдзеце рэчы ўласнай вытворчасці, а таксама іншых вытворцаў, рамеснікаў і майстроў. Гэта адзенне (вышыванкі, кашулі, цішоткі, швэдры, сукенкі для дзяцей і дарослых), аксесуары (галаўныя ўборы, торбы, заплечнікі, упрыгожанні) аўтапрылады, паліграфічная прадукцыя, канцтавары, кераміка, забавы, цацкі, скураныя вырабы, прысмакі, посуд і інш. Усе рэчы нясуць у сабе нацыянальны каларыт", — сцвярджаецца там.

Што ж тычыцца інфармацыі ўласна на сайце інтэрнэт-крамы, то старонка „Пра нас" нічога падобнага не змяшчае. Адзінае, што мы там пабачым, гэта звесткі пра яе ўладальніка — індывідуальнага прадпрымальніка Валерыя Есіпёнка і кантакты для сувязі з ім.

Калі ж віртуальна прайсціся па паліцах інтэрнэт-крамы, то там мы можам выбраць сабе нешта ў аддзелах кніг, адзення, паліграфіі, керамікі, посуду, розных аксесуараў. Сярод прапанаваных прысмакаў — пернікі, гарбата, цукеркі — вяленыя парэчкі, гарбузы, журавіны, агрэст і рэвень.

Асаблівую ўвагу варта звярнуць на ўпрыгожанні. Там патэнцыйны пакупнік можа выбраць сіліконавыя бранзалеты з надпісам *Belarus*, бірулькі з такім жа надпісам альбо гербам Пагоня, значкі, брошкі, камплект рамак з беларускім арнаментам пад нумар аўтамабіля.

Варта адзначыць, што крама мае не толькі інтэрнэт-версію, але і працуе ў рэальнай прасторы. Два гады таму менавіта пра яе рабіла рэпартаж швейцарскае радыё і тэлебачанне SRF, якое адзначыла, што прадаўцы ў гэтай невялікай сувенірнай краме маюць зносіны толькі па-беларуску. „Зрэшты, не толькі беларуская мова прыцягвае наведвальнікаў у краму. У кожнай рэчы прысутнічае старажытная беларуская культура, перадаецца яна праз традыцыйныя ўпрыгожванні на цішотках, кубках, паштоўках і нават тэрмасах", — гаворыцца ў рэпартажы.

Як распавяла швейцарскаму журналісту прадавачка Ангеліна, турысты прыязджаюць у Беларусь са стэрэатыпамі ў галаве, што такая краіна як Беларусь павінна быць камуністычнай, і вельмі здзіўляюцца, што гэта не так.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара



## 140 гадоў з дня нараджэння
# Васіля Рагулі

Беларускі палітычны, грамадска-культурны дзеяч, педагог, актывіст беларускай эміграцыі Васіль Рагуля нарадзіўся 16 (28) ліпеня 1879 г. у вёсцы Ачукевічы Любчанскай воласці (цяперашні Навагрудскі раён). Скончыў пачатковую школу, а ў 1898 г. настаўніцкую семінарыю ў Маладзечне. Да 1903 г. быў настаўнікам пачатковай школы ў вёсцы Налібакі на Стаўбцоўшчыне. Далей вучыўся ў Віленскім настаўніцкім інстытуце, які скончыў у 1906 г. Некаторы час працаваў настаўнікам у Мінскім павеце, Смаргоні, Мінску. Арыштоўваўся ў 1906 г. за ўдзел у рэвалюцыйных падзеях. Ужо тады актыўна ўключыўся ў грамадскую працу, у сваёй мясцовасці на вакацыях стварыў тэатральны гурток, а таксама дапамагаў землякам паступіць на вучобу.

Васіль Рагуля, мабілізаваны ў войска ў 1914 г., удзельнічаў у Першай сусветнай вайне. Ваяваў на Заходнім фронце, тады ж уступіў у Расійскую дэмакратычную партыю. У 1917 г. у Мінску быў удзельнікам Першага Усебеларускага з'езда. Увосень 1918 г. Рагуля пераехаў у Мінск на стала і працаваў як настаўнік чыгуначнай чатырохкласнай школы. Вясной 1920 г., з прыходам у Мінск палякаў, школа была зачынена, а настаўнікі былі пушчаныя „на зялёную траву".

Васіль Рагуля пераехаў у сваю вёску, маючы карову, каня, плуг і барану, узяўся за гаспадарку. Грошай катастрафічна бракавала. Потым прыйшлі бальшавікі і мабілізавалі Рагулю зноў у войска, завезлі ў Смаленск. Там ён прабыў у Чырвонай Арміі да ратыфікацыі польска-савецкай дамовы. 24 красавіка 1921 г. Рагуля ўцёк з Чырвонай Арміі дахаты. Дома застаў толькі дзяцей, жонка трагічна загінула ў выніку апёкаў. Зазнаў разам з дзецьмі беднасць і нястачу, не было нават абутку.

У 1922 г. абраны дэпутатам у польскі сейм ад Блока нацыянальных меншасцей, у 1928 годзе ад таго ж блока — у сенат. Уваходзіў у Беларускі пасольскі клуб. Адзін з ініцыятараў стварэння і кіраўнікоў Беларускага сялянскага саюза. Арыштаваны тагачаснымі польскімі ўладамі, быў асуджаны да зняволення на два гады.

Пасля вызвалення з турмы ў 1930-х гадах Васіль Рагуля вярнуўся ў родную вёску, працаваў на сялянскай гаспадарцы. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР, з верасня 1939 г. працаваў настаўнікам у мясцовай дзесяцігадовай школе. 20 чэрвеня 1941 г. арыштаваны савецкімі карнымі органамі. Аднак з пачаткам нападу фашысцкай Германіі на Савецкі Саюз уцёк з-пад арышту. Рагулю ўдалося ўцячы за Мінскам з цягніка, які вёз яго ў Сібір і пешшу вярнуцца дахаты. У родных мясцінах беларускі актыў выбраў яго старшынёй беларускага валаснога камітэта. Мястэчка Любча было першай мясцінай на Навагрудчыне, дзе быў узняты бел-чырвона-белы сцяг. Пры нямецкай акупацыі навагрудскі гэбітскамісар прызначыў Васіля Рагулю без яго згоды бургамістрам Дзятлаўскага раёна, што пазней наклала на яго ярлык калабаранта. Таксама Рагуля ўдзельнічаў у Другім Усебеларускім з'ездзе.

У ліпені 1944 г. Васіль Рагуля эміграваў. Жыў у Нямеччыне, потым у Бельгіі. Яшчэ ў Бельгіі напісаў свае ўспаміны, якія былі выдадзеныя. У 1993 годзе ў Мінску гэтыя ж „Успаміны", дзе расказваецца пераважна пра 1920-1930-я гады і дзе змешчаны выбраныя прамовы, а таксама іншыя дакументы, былі перавыдадзены.

Пазней, у 1950 годзе, Васіль Рагуля пераехаў у ЗША да сына. Памёр ён пасля доўгай і цяжкай хваробы 16 чэрвеня 1955 года ў Нью-Йорку.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

XX MIĘDZYNARODOWY FESTIWAL

XX МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ

Siabrouskaja Biasieda

Сяброўская Бяседа

GRÓDEK - UROCZYSKO BORYK 27 LIPCA 2019 GODZ. 17[00]

ГАРАДОК - УРОЧЫШЧА БАРЫК 27 ЛІПЕНЯ 2019, 17[00] ГАДЗІНА

ADAM ASANOV

PROGRAM „PERETOCZE 2019"

BIAŁOWIEŻA 26 – 27.07.2019 r.

26 LIPCA – PIĄTEK

godz. 17.00 – „Peretocze" zaprasza - „Muzyczny tabor"

godz. 18.00 - Otwarcie Festiwalu

KONCERTUJĄ:

„PADLASKI WIANOK" ZESPÓŁ TANECZNY (Białystok)

„PODLASKIE KUKUŁKI" – ZPiT (Bielsk Podlaski)

CHÓR ŻYDOWSKI CLIL (Warszawa)

HUCULSKA KAPELA „SERPANOK" (Pieczeniżyn/Kołomyja)

„SŁOWIANKI" - ZPiT UNIW. JAGIELLOŃSKIEGO (Kraków)

- Uczestnik Podlaskiej „Oktawy Kultur" -

ZESPÓŁ MUZYKI SŁOWIAŃSKIEJ „GAJ" (Białystok)

27 LIPCA – SOBOTA

godz. 17.00 – „Peretocze" zaprasza - „Muzyczny tabor"

godz. 18.00 KONCERTUJĄ:

ZESPÓŁ „RUCZAJOK" (Białowieża)

LITEWSKA KAPELA „KLUMPE" (Puńsk)

ZESPÓŁ „OMORFOS" (Siemiatycze)

KOZACY - ZESPÓŁ „RADA" (Grodno)

ZESPÓŁ „CYGAŃSKIE SERCA" (Igryły)

PAŃSTWOWY ZESPÓŁ MUZYKI LUDOWEJ „SWIATA" (Mińsk)

ZESPÓŁ „NIEMORALNA PROPOZYCJA" (Białystok)

❖ UWAGA: Kolejność prezentacji zespołów może ulec zmianie

Zapraszamy Wstęp wolny

# Запрашэнне
## на „Сяброўскую бяседу"

27 ліпеня гэтага года ва ўрочышчы Барык каля Гарадка Беластоцкага павета адбудзецца XX Міжнародны фестываль „Сяброўская бяседа". Пачатак а гадзіне 17-й.

У праграме канцэрты мастацкіх калектываў з Польшчы і Рэспублікі Беларусь: „Івіца", „Купалінка", „Стрэчанне", „Уладары" і „Цвецень" (усе яны з Беларусі), мастацкія калектывы з Гарадоцкай гміны, „Немапральная прапанова", „Кантрольны вобраз", „Добрыя грайкі", „Зорка", „Гай", „Золата", „Server dance" і „Souvenir". Зоркай вечара будзе вакаліст Адам Асанаў.

Будуць, між іншым, конкурсы, прэзентацыі рэгіянальнай кухні, паказ феерверкаў, народная танцавальная забава і іншыя атракцыёны.

Культурна-забаўляльнае мерапрыемства ладзяць войт Гарадоцкай гміны, Гмінны цэнтр культуры ў Гарадку і Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Арганізатары „Сяброўскай бяседы" сардэчна запрашаюць. **(яц)**

# Новыя правілы

Міністэрства здароўя падрыхтавала новыя прынцыпы выдачы накіравання на санаторнае лячэнне або санаторную рэабілітацыю. Закон увайшоў у сілу з пачаткам ліпеня гэтага года. Новыя прынцыпы паўплываюць на памяншэнне чаргі ў санаторый. Дагэтуль можна было пасля закончанай змены падаваць заяву аб выдачы новага накіравання. Зараз толькі пасля года ад заканчэння лячэння або рэабілітацыі магчымым будзе зрабіць ацэнку закончанай тэрапіі і яе ўплыву на стан здароўя. Тады магчыма будзе атрымаць новае накіраванне. Прадбачваецца, што ў год на лячэнне з чэргі можа «выпасці» каля 150 тысяч чалавек. Паводле новага закону пацыент, які хадайнічае за санаторнае лячэнне, абавязаны будзе даручыць накіраванне ў НФЗ у месячны тэрмін. Пасля месяца накіраванне страчвае сапраўднасць. Пры гэтым адна важная дэталь: месца накіравання ў санаторый будзе вызначаць не сямейны лекар, як было дагэтуль, толькі спецыяліст НФЗ. **(УС)**

# Векавыя белавежскія дубы

У Белавежскай пушчы растуць прыгожыя векавыя дубы. Ёсць сярод іх волаты ў некалькі тон вагі. Дубы цешаць нас сваёй спакойнай прысутнасцю, прыгажосцю і магутнасцю.

Асабліва прыгожыя дубы, у тым ліку і помнікі прыроды, знаходзяцца на тэрыторыі, між іншым, Нараўчанскай гміны. Дубовыя гаі варожаць вока ля вёскі Свінарої, каля Крыніцы, Капітаншчыны, Пераходаў і ў Гнільцы. Стройныя дубы можна сустрэць ва ўрочышчы Вілы, там дзе прытокі Гвозьна і Брашча ўліваюцца ў раку Нараўку. Прыгожыя дрэвы з гэтага шляхетнага віду ліставых можна ўбачыць каля царквы ў Нараўцы ды пры дарозе, якая паралельна бяжыць побач чыгункі ў Плянце, а таксама з Плянты ў Новае Ляўкова.

Шматвекавыя волаты знаходзяцца на тэрыторыі Гайнаўскай гміны, між іншым, каля вёсак Лазіцы, Ліпіны і Пасталова ды ў Нарваўскай гміне — каля Падбаравіска і Падваськоў. Многа іх на тэрыторыі Белавежскай гміны ды ў самой вёсцы Белавежа і ў г. зв. Старой Белавежы (там „Шлях каралеўскіх дубоў"). **(яц)**

# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**1.** паласа зямлі каля вадаёма, **2.** збудаванне для масавых відовішчаў з паўкруглай аўдыторыяй, **3**. даходная прадпрымальніцкая дзейнасць, **4.** адзінка сілы, **5.** вялікая сібірская рака, **6.** без агню не бывае, **7.** міфалагічная заступніца навук і мастацтваў, **8.** тысяча кілаграмаў, **9.** 2,44 сантыметра, **10.** народны расказ пра герояў, **11.** працуе сярпом, **12.** загародка для абароны ў час вулічных баёў, **13.** хімічны элемент н-р 55.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | 1 | | |
| | 2 | 3 | | 4 | 5 | | | | | | 6 | 7 |
| | | | | | 8 | | | | | | | |
| | | | 9 | | | | | | | | | 10 |
| 11 | | | | 12 | | | | | 13 | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 26 нумара**

Джала, сопка, Піна, Штрых, цыцка, Цвейг, аер, ноч, авечка, ешыбот, цела, Грац.

Рашэнне: **Чалавек спешыцца, а чорт цешыцца**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міхалу Байко** з Беластока.

# 28.07 — 03.08

**(22.03. — 20.04.)** 28.07. — удадуцца любоўныя сустрэчы і карысныя фінансавыя прапановы. Рамантычныя кліматы. 28-31.07. не трап у кепскую кампанію і будзь далёка ад благіх звычак. Напівайся ўволю мінеральнай вады. 29.07. — неадкладна спраўся з хатнімі справамі. Абмінай усё, што можа прынесці шкоду твайму арганізму.

**(21.04. — 21.05.)** Не мяняй працы. Можаш атрымаць падбаўку ці халтурку экстра. Прыдасца — канікулы могуць аказацца даражэйшымі, чым здавалася. 27-31.07. магчымыя праблемы на працы і непаразуменні дома. Будзь вельмі асцярожны ў апошнія дні ліпеня — могуць цябе звесці ў пачуццях і фінансах. Сачы за прыкметамі — могуць цябе асцерагаць. 30.07. не атруціся, будзь асцярожны ў тлумных месцах. 1.08. магчымае значнае дапаўненне бюджэту.

**(22.05. — 22.06.)** Ва ўсіх справах звяртайся да здаровага розуму. 28.07. лёс дасць табе новыя выклікі. 29.07. — дэпрэсіўныя станы. 30.07. — не выбірайся ў дарогу, не еж па-за домам., не пі спіртнога. 31.07. — крытычны дзень, рызыка, не натужвайся ў прафесійных справах. 1.08. лепш увогуле сядзі дома. Весткі пра прыбыткі. 2.08. будзь асцярожным з машынамі і вострым.

**(23.06. — 23.07.)** 27-31.07 магчымыя скрыгаты і непаразуменні ў пары. Ад 28.07. аб твае прыбыткі задбае Венера. Чакай заплат, узнагарод, вяртання даўгоў, больш чым спадзяешся. Больш часу аддай для хатніх спраў і сям'і, адпачывай, гуляй з жывёламі. Не схіляйся, хутчэй прысядзь.

**(24.07. — 23.08.)** 27-31.07. штосьці, на чым табе залежыць, можа не пайсці па тваім плане. У пары — што выйграе: прага свабоды, ці патрэба блізкасці? Вельмі пільнуйся ад вільгаці, не заразіся грыбком на басейне ці пад душам. Ззяеш — у прыватнасці, і ў грамадстве. Зможаш падмацаваць свае фінансы. Новыя знаёмствы — з карыснымі для цябе і мілымі людзьмі (1.08. будзь усё ж асцярожны!). 30.07. — прыёмы і сустрэчы лепш перанясі на пaслязаўтра.

**(24.08. — 23.09.)** 27-31.07. твой імунітэт (адпорнасць) будзе на самым дне — вельмі дбай аб сябе і пільнуйся. Але шэф цябе здзівіць — узнагародзіць тваю сумленнасць, працавітасць і кампетэнтнасць. Можаш таксама зарабіць на тым, што не з'яўляецца тваёй прафесіяй, але на чым добра знаешся. Але моцна зашпілі папругу, асабліва ў час адпачынку, каб не перавысіць свайго бюджэту і выдаткаў. Могуць паявіцца перашкоды, калі займаешся рызыкоўнай справай, асабліва 1.08., калі могуць цябе збіць з прыярытэтнага напрамку парожнія размовы.

**(24.09. — 23.10.)** З 28.07. набярэш ахвоты на любоўныя гульні. Шалі без пары, асабліва народжаныя ў І дэкадзе, могуць пазнаёміцца з кімсьці файным у час адпачынку ці падарожжа. А нават сужонствы з доўгім стажам могуць перажыць электрызуючыя ночы і дні. Прыемныя дні, добра ў калектыўных справах, гармонія, поспехі. 1.08. цяжка і сварліва, а 2.08. — дзень з ілюзорнасцю і лішняй эмацыйнасцю, асабліва для творчых людзей, хоць магчымы прыбытак.

**(24.10. — 22.11.)** 27-31.07. будзь асцярожны з асобамі з кепскай рэпутацыяй і занятымі. Бярыся за важныя фінансавыя рашэнні; могуць паявіцца прыбыткі з ранейшых інвестыцый. Актыўныя дні. Пачуццё падтрымкі зверху. Трансфармацыі, новыя весткі. 31.07. не пакрыўдзі нявіннага. 2.08. магчымы матэрыяльны поспех.

**(23.11. — 22.12.)** 28.07. не прастудзіся. Можаш стаць на чале калектыву (не бойся). На пакупкі ідзі з адлічанымі грашыма і падыходзь да іх са здаровым розумам. Спакушаць цябе будуць рэчы дарагія, ды непатрэбныя. Стральцоў з ІІ дэкады могуць аблезці... прышчы (не еж халоднага і гатовых купных страў). Цвярозы, памяркоўны погляд, добрыя адносіны з людзьмі. Падабаешся другому полу. 1.08. памагаюць табе ва ўсім зоркі!

**(23.12. — 20.01.)** 28.07. будзеш помслівы і заўзяты. Пачынай кожны дзень з гімнастыкі, хаця б ад некалькіх прысяданняў. Пільнуйся ад нятрапных фінансавых ходаў. У старэйшых Казярогаў магчымае псаванне настрою. Мужчынам пагражаюць прыкрасці ад нечаканага знаёмства ці вяртання старога. Плёткі. 31.07. лепш не вырашай нічога ў фінансах. Калі маеш лішак, падзяліся з тымі, каму трэба.

**(21.01. — 19.02.)** Да 31.07 вельмі пільнуйся — кепскія рашэнні могуць быць вельмі благімі ў выніку. Але з 28.07. будуць сапраўдныя любоўныя захапленні. Навучыся дараваць іншым правіны, бо стрэс і згрызота нішчаць здароўе. Добрыя дні для творчых прафесій. Высокі жыццёвы патэнцыял, хоць можа не справішся з усімі абавязкамі. Прыпыніся, адпачні.

**(20.02. — 21.03.)** Вельмі добры час для «падрамантавання» здароўя. Добра было б правесці яго ў санаторыі, у спа, над вадой. Варта пайсці ў храм, вечар правесці са свечкамі. Калі адчуваеш стому, зрабі аналіз крыві. Крыху параспешчвай сябе далікатэсамі, добрым марозівам. 31.07. будзь асабліва асцярожны на вуліцы! Сімпатыя атачэння, прыцягнеш да сябе шчасце.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

1 ☞ праця́г

— «Мроя», «Н.Р.М.», «Volski», — усё, што мы цягам тых 30 гадоў спявалі ў Барыку на «Басах», — сказаў пасля выступу Лявон Вольскі. — Што будзе праз год, праз два? Паглядзім. Вядома, выступіць на «Басовішчы» было абавязкам, гэта як Новы год, як зіма — «Басовішча» ёсць і трэба там быць. Калі няма, ну добра, у наступным годзе знач́ыцца будзе.

Апошнія «БАСы» не маглі абысціся без рок-гурту «:B:N:» з Бярозы, што на Берасцейшчыне. Лаўрэаты фестывалю «Басовішча-2002» зараз маюць пяць альбомаў, але гэта першы, выдадзены дзякуючы «БАСам», адкрыў ім музычную кар'еру.

— Мы з'явіліся пад канец 1999 года. Тады мы з канцэртамі далей за Берасце нідзе не ездзілі. Калі мы прыехалі сюды, афігелі ад гэтай сцэны, ад гуку. Я тут пазнаў такія гурты, як «Крама», «Н.Р.М.», — сказаў лідар гурту «:B:N:» Алесь Лютыч. — Спадзяюся, што арганізатары таксама не да канца ўпэўненыя, што «Басовішча» ўжо не адбудзецца. Можа зменіцца нейкі фармат, але куды ж без Барыку? Без Гарадка? Людзі сюды прыязджаюць не толькі дзеля музыкі, але таксама каб адпачыць, сустрэць сяброў. Усё гэтаму спрыяе. Мы ўжо размаўлялі з сябрамі, што калі нават у наступным годзе «БАСаў» не будзе, мы прыедзем і паспяваем тут пад акустычную гітару.

Юбілейнае і апошняе «Басовішча» завяршыў канцэрт гарадзенскага гурту «Дзецюкі».

Варта дадаць, што цягам трыццаці гадоў Барык ля Гарадка наведала шмат зорак не толькі беларускай, але і польскай музычнай сцэны, такіх як «Піджама Порна», «KULT», «Фарбен Легрэ»... Былі таксама групы з Італіі, Літвы, Украіны ці Балкан.

### РАЗАМ І НАЗАЎЖДЫ!

У поўнае знікненне любімага фестывалю не хочуць верыць многія музыкі і сталыя госці. Усё-такі арганізатары бачаць у канцы фестывалю таксама новы пачатак нечага іншага.

— Я радуюся, што мы маглі сустракацца столькі гадоў, адрывацца ў гэтай лясной прасторы і думаю, што мы павінны несці гэтыя ўсе ўспаміны, пачуццё свабоды ў сабе далей, — сказала Ганка Пякарская. — Фестываль не можа трываць такім, якім ёсць цяпер. Мая сястра гэта такая гераіня, якіх мала, каб прыняць такое рашэнне. Мы ўжо дамовіліся з сябрамі, што праз год прыязджаем з гітарамі і святкуем, быццам бы «Басовішча» існавала далей.

На апошнія БАСы прыехаў таксама беларускі дзеяч і журналіст Франак Вячорка са сваім чатырнаццацігадовым пляменнікам з Партугаліі.

— Гэта безумоўна цэлая цывілізацыя, якая стварыла рок-музыку, якая зарадзіла беларушчынай не адно пакаленне беларусаў, якое пачалося з распаду Савецкага Саюза і зараз, калі ўжо незалежнасць Беларусі адбылася, ён пераможна святкуе сваё завяршэнне, — адзначыў Франак Вячорка. — Гэта адзіны з нямногіх паспяховых праектаў беларусаў, які дабіўся сваёй мэты. «Басовішча» сваю місію выканала. Культура беларуская адроджана, нацыянальная свядомасць захавана, пакаленне моладзі, якая ведае беларускую мову, вырашчана.

Зараз толькі рэхам будуць чутныя ў Барыку словы лідара гурту «Дзецюкі» Алеся Дзянісава, які закрыў фестываль.

— Шкада, што гэты фестываль зыходзіць. Будзем спадзявацца, што знойдуцца нейкія сілы і грошы і ўсё ж такі «Басовішча» застанецца. Вялікі дзякуй гэтым людзям, якія пачыналі той фестываль, дзякуем арганізатарам сёлетніх «БАСаў». Разам і назаўжды! Жыве Беларусь!

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# «Басовішча» дабілася сваёй мэты













Лявон Тарасэвіч



Лявон Вольскі і Ілона Карпюк






ISSN 0546-1960